● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

21 лістапада 1998 г. субота, № 228 (23579)



# ЗВЯЗДА

## НАСТАЎ ЧАС АКТЫЎНА ЎКЛЮЧЫЦЬ У СФЕРУ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ГРАМАДСКІЯ І ГУМАНІТАРНЫЯ НАВУКІ

**На этапную ў гісторыі развіцця беларускай навукі нараду сабраліся 20 лістапада ў Нацыянальнай акадэміі навук вучоныя-гуманітарыі і выкладчыкі-грамадазнаўцы. Размова на ёй ішла аб развіцці гуманітарных навук у нашай краіне і павышэнні іх ролі ў дзяржаўным будаўніцтве.**

Гэта нарада была праведзена па ініцыятыве прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, разам з якім пагутарыць з вучонымі прыйшлі кіраўнікі беларускага парламента Павел Шыпук і Анатоль Малафееў, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, члены беларускага ўрада, прадстаўнікі мясцовых органаў улады.

Спачатку планавалася, што нарада пачнецца дакладам Аляксандра Лукашэнкі. Аднак кіраўнік дзяржавы прапанаваў выказацца спачатку самім вучоным, адысці ад стандартаў, каб гэта сустрэча не ператваралася ў маналог аднаго чалавека. Тым больш, як сказаў кіраўнік дзяржавы, яна праходзіць на даволі складаным сацыяльна-эканамічным фоне.

У сваім уступным слове прэзідэнт адзначыў, што ён часта сутыкаецца з тым жа пытаннем, што і вучоныя-грамадазнаўцы: што рабіць у цяперашняй сітуацыі? Ён нагадаў, што Беларусь не пайшла па шляху неабдуманай ломкі грамадства, паколькі, паводле ўласнасці, хоць дзяржавы-суседзі зрабілі менавіта так.

Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, вопыт паказаў, што заходнія інвестары робяць гэта выключна ў сваіх інтарэсах. Прапановы многіх з іх непрымальныя для нашага грамадства, паколькі інвестараў цікавіць толькі вытворчасць, яны патрабуюць усялякіх ільгот, а ўсю сацыяльную сферу хочуць перакласці на плечы дзяржавы. Гэтак жа, лічыць прэзідэнт, заходнія інвестары адносяцца і да навукі, фінансуючы толькі тыя праекты, якія могуць прынесці добры прыбытак.

Прэзідэнт адзначыў, што Беларусі прыходзіцца жорстка канкурыраваць на сусветных рынках. І хоць у нас ёсць канкурэнтаздольная прадукцыя, аднак краіны Захаду яе не пускаюць да сябе. Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, выдзеленыя мізэрныя квоты Беларусь у гэтым годзе вычарпала за 9 месяцаў. «Там няма ніякай канкурэнцыі, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. — Ад нас і ад Расіі яны патрабуюць лібералізацыі знешняга гандлю, адкрыцця граніц, але ў сваю эканамічную сістэму Захад не пускае». Таму прэзідэнт лічыць неабгрунтаванымі папрокі ў тым, што Беларусь у асноўным арыентавана на Расію. Сусветныя рынкі ўжо даўно падзелены.

Тлумачачы прычыны цяперашніх складанасцяў, прэзідэнт сказаў, што перад кіраўніцтвам краіны паўстала дылема: або мы адновім работу прадпрыемстваў на ўмовах рэальных цэн, або канчаткова загубім эканоміку. Абвал на сусветных рынках не мог не адбіцца на такой маленькай краіне, як Беларусь. Аднак, прызнаў Аляксандр Лукашэнка, насельніцтва краіны аказалася неабароненым ад такога рэзкага скачка цэн. Таму ён даў даручэнне заднім чыслом, гэта значыць з 1 лістапада, праіндэксаваць даходы грамадзян, і перш за ўсё тых, хто працуе ў бюджэтнай сферы.

Выказаўшыся даволі адкрыта, кіраўнік дзяржавы заклікаў да адкрытай размовы ўсіх удзельнікаў нарады. Першым на трыбуну падняўся міністр адукацыі Васіль Стражаў. Ён адзначыў, што ўвядзенне новых гуманітарных дысцыплін у навучальных установах пачалося раней, чым станаўленне

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**




*Прадавец карцін у скверы на пл. Свабоды у Мінску халодным лістападаўскім днём корміць галубоў. Надвор'е дрэннае, пакупнікоў мала — дык хоць птушкам можна дапамагчы.*

## Мяняў «кінулі» на 1,5 мільярда рублёў

**Колькі разоў праз друк, радыё і тэлебачанне папярэджвалі супрацоўнікі МУС аб тым, што небяспечна займацца самастойна на вуліцы купляй і продажам СКВ, — усё дарэмна.**

Адсюль і праблемы, якія з'яўляюцца ў «валютчыкаў». Выпадак, які адбыўся з мінчанінам, з разраду падобных «прыгод», якія, трэба меркаваць, яму надоўга запомняцца. Затрымалі сталічнага жыхара ў Брэсце супрацоўнікі Ленінскага РАУС за незаконныя аперацыі з валютай. У мяняла канфіскавана 1,5 мільярда рублёў, на якія той спрабаваў купіць валюту. Як высветлілася, мінчанін у сталіцы прадаў СКВ на адным з рынкаў, а ў Брэсце з'явіўся з надзеяй купіць па рублі больш танную валюту. Скончылася гэтая спроба для яго сумна. Грошы канфіскаваны ў даход дзяржавы.

Між тым, не менш сумна закончыўся вояж у Беларусь і жыхара Бранскай вобласці, якога па дарозе дадому спынілі супрацоўнікі гомельскай міліцыі. На ўласным аўтамабілі расіянін спрабаваў вывезці за межы рэспублікі 6 тысяч глазураваных сыркоў на суму больш 90 мільёнаў рублёў. Салодкі груз затрыманы.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## 81 ПРАЦЭНТ КІРАЎНІКОЎ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, АПЫТАНЫХ САЦЫЁЛАГАМІ, ЧАКАЮЦЬ У БЛІЖЭЙШЫ ЧАС РОСТУ ЦЭН НА ВЫРАБЛЯЕМУЮ ІМІ ПРАДУКЦЫЮ

У кастрычніку гэтага года вучоныя Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі Беларусі апыталі больш за 200 кіраўнікоў прадпрыемстваў, якія прадстаўляюць асноўныя галіны прамысловасці і формы ўласнасці. Апытанне мела на мэце выявіць найбольш важныя паказчыкі работы і перспектывы дзейнасці прадпрыемстваў.

Адказваючы на пытанне, якія змяненні чакаюцца на вытворчасці ў бліжэйшыя 2-3 месяцы, большасць прадстаўнікоў дырэктарскага корпуса (81 працэнт) указалі на рост сярэдніх цэн на іх прадукцыю. Іншыя паказчыкі дзейнасці прадпрыемстваў, лічаць рэспандэнты, будуць зніжацца. Так, кожны чацвёрты — 26 працэнтаў апытаных — прагназіруе памяншэнне фізічных аб'ёмаў вытворчасці. Для параўнання: тры месяцы таму, у ліпеньскім сацапытанні, такой думкі прытрымліваліся толькі 11 працэнтаў кіраўнікоў прадпрыемстваў. Кожны пяты апытаны чакае зніжэння занятасці на сваім прадпрыемстве (19 працэнтаў). Прыкладна такая ж колькасць рэспандэнтаў (18 працэнтаў) прагназіруюць памяншэнне агульнага попыту на вырабляемую імі прадукцыю.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

***Удзельнікам і гасцям V Міжнароднага кінафестывалю краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Балтыі «Лістапад»***

*Дарагія сябры!*

*Сардэчна вітаю вас на беларускай зямлі і выказваю надзею, што форум, які адкрыецца сёння ў Мінску, стане святам кінематаграфістаў, яшчэ адным мостам дружбы паміж народамі, яшчэ адным крокам да іх духоўнага ўзаемаўзбагачэння.*

*Стаўшы ўжо традыцыйным, гэты асенні фестываль прадаўжае развіваць закладзеныя ў ім прынцыпы пазітыўнага асэнсавання рэчаіснасці, зацвярджэння высокіх гуманістычных ідэалаў, садзейнічае паглыбленню прафесійных сувязяў творчых работнікаў і развіццю кінамастацтва краін СНД і Балтыі.*

*Упэўнены, што вялікая сіла кінематографа будзе садзейнічаць стварэнню адзінай культурнай прасторы краін — удзельніц фестывалю і паслужыць умацаванню адносінаў ва ўсіх сферах міжнароднага супрацоўніцтва.*

*Жадаю ўдзельнікам і гасцям кінафестывалю творчых дасягненняў, добрага здароўя, асабістага шчасця, набыцця новых сяброў.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*21 лістапада 1998 г.*

## «Лістапад» у Мінску

**21 лістапада, адбудзецца адкрыццё пятага міжнароднага кінафестывалю «Лістапад-98».**

Цырымонія ўрачыстага адкрыцця адбудзецца ў кінатэатры «Кастрычнік» у 17 гадзін вечара. Яе ўдзельнікамі будуць знакамітыя акцёры: А.Булдакаў, А.Янкоўскі, Д.Баніёніс, У.Сцяклоў і інш.

У гэты дзень гледачам і аматарам кіно прапануюць паглядзець карціну Сяргея Урсуляка «Сачыненне да дня Перамогі», якая пройдзе тут жа ў 18.30. А ў кінатэатры «Цэнтральны» пройдзе пазаконкурсны паказ беларускага фільма «Забіць прытворшчыка». Пачатак у 18.30.

***Усміхнемся!***




Аўтамабіліста спыніў паліцэйскі і ўважліва абследаваў яго машыну.

*— Гэту разваліну я нават не рызыкнуў бы назваць аўтамабілем, — заключыў ён.*

*— Цудоўна! — узрадаваўся вадзіцель. — Менавіта таму ў мяне няма вадзіцельскіх правоў.*

xxx

Ніна сустракае сяброўку з дзіцячай каляскай і зазірае ў яе:

*— Сапраўдная копія татачкі!*

*— Так! А мой муж сцвярджае, што сын падобны на яго.*

## ТОЛЬКІ ФАКТ

● Спіртное прама або ўскосна ў мінулым годзе забрала **15 тысяч** жыццяў беларусаў.

● Калі ў канцы 80-х гадоў доля былога СССР **у гандлі зброяй** складала 20 працэнтаў, то зараз Расія займае нішу ў 6-7 працэнтаў.

● Летась у рэспубліцы **спажыванне асноўных прадуктаў** харчавання на душу насельніцтва, напрыклад, малака і малочных прадуктаў, склала 370 кг, бульбы — 180, хлебных прадуктаў — 121, агародніны і бахчавых — 84, мяса і мясапрадуктаў — 60, цукру — 34,1 кг.

● Толькі ў І паўгоддзі па **фактах хабарніцтва і службовых злачынстваў** узбуджаны 63 крымінальныя справы супраць работнікаў міліцыі, 23 — супраць работнікаў мытні, 2 — супрацоўнікаў пракуратуры, 1 — супрацоўніка КДБ, 2 — супраць суддзяў.

***Парламенцкі веснік***

## ЗНОЎ У АВАЛЬНУЮ ЗАЛУ ЗАПРАШАЮЦЬ УРАД

На пленарным пасяджэнні пятай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, якое адновіцца 25 лістапада, дэпутаты зноў пачнуць паўторны разгляд дапрацаванага праекта Закона «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

Гэты дакумент быў прадметам дэталёвага абмеркавання на сумесных пасяджэннях усіх пастаянных камісій. Яны праходзілі з удзелам Старшыні Палаты прадстаўнікоў Анатоля Малафеева і яго намесніка Уладзіміра Канаплёва, а таксама кіраўніка Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Лідзіі Ярмошынай. Анатоль Малафееў адназначна заявіў аб тым, што на сённяшні дзень ніякіх канцэптуальных перашкод для прыняцця гэтага законапраекта ў першым чытанні няма.

25 лістапада дэпутаты таксама будуць разглядаць у другім чытанні праект Кодэкса аб зямлі, а ў першым — законапраект «Аб амністыі некаторых катэгорый асоб, якія ўчынілі злачынствы». На наступны дзень у Авальнай зале пройдзе сумеснае пасяджэнне дзвюх палат Нацыянальнага сходу, на якім урад ужо другі раз на гэтай сесіі будзе адказваць на пытанні парламентарыяў.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

# НАСТАЎ ЧАС АКТЫЎНА ЎКЛЮЧЫЦЬ У СФЕРУ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ...



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

навуковых школ. Гэта і да цяперашняга часу працягвае адбівацца на развіцці грамадскіх навук. Фарміраванне планаў па грамадскіх дысцыплінах праходзіла стыхійна, адзначыў міністр, адсутнічалі міжпрадметныя сувязі. Для ліквідацыі ўзнікшых перакосаў прымаліся розныя меры. Са станоўчага боку ахарактарызаваў Васіль Стражаў вынікі работы рэспубліканскай камісіі па навучальных дапаможніках у гуманітарнай сферы, у выніку чаго ўдалося палепшыць сітуацыю ў выкладанні гуманітарных дысцыплін.

Эпохай глабальных перамен назваў цяперашні час прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандр Вайтовіч. На яго думку, вучоныя павінны знайсці адказы на два галоўныя пытанні. Адно з іх традыцыйнае: што рабіць, каб выйсці з крызісу, а другое — чаму рэспублікі былога СССР аказаліся эканамічна адкінутымі назад і ці было гэта непазбежным.

На думку Аляксандра Вайтовіча, любую сістэму можна засцерагчы ад спаўзання ў хаос, нават у фізіцы ёсць такое паняцце, як «кантроль хаосу». Для эканомікі гэта можа служыць прыкладам, паколькі свабодны рынак без рэгулюючых механізмаў прыводзіць да хаосу. Гэта, лічыць прэзідэнт акадэміі, цікавая тэма для навуковых даследаванняў.

Розныя аспекты вынесенай на абмеркаванне тэмы ўзнялі ў сваіх выступленнях дэкан філалагічнага факультэта БДУ Анатоль Зелянкоў, дырэктар Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Пётр Нікіценка, дырэктар Інстытута філасофіі Расійскай акадэміі навук Вячаслаў Сцёпкін. Ён адзначыў, што ўзнятыя на нарадзе праблемы актуальныя не толькі для нашай краіны, але і для ўсіх дзяржаў СНД. Вячаслаў Сцёпкін перакананы: ніякія рэформы ні ў адной краіне не могуць праводзіцца без дзейснай дзяржаўнай улады.

Усе, хто выступаў на нарадзе, адкрыта гаварылі аб сваіх праблемах, і ў зале склалася даволі шчырая і дэмакратычная абстаноўка. Сярод тых, хто прадоўжыў дыскусію, былі педагог адной са сталічных школ Алена Валабуева, народны мастак СССР акадэмік Міхаіл Савіцкі, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Марыя Бірукова, рэктар Рэспубліканскага Інстытута вышэйшай школы Пётр Брыгадзін, выконваючы абавязкі дырэктара Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Васіль Бушчык.

Завяршаючы нараду, прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што цяпер грамадскія навукі знаходзяцца на новым этапе свайго развіцця, адыходзяць у мінулае стэрэатыпы мыслення, аджыўшыя метады эканамічнай дзейнасці і механізмы палітычнага кіраўніцтва. «Заўсёды ўзнікала пытанне: якое грамадства мы будуем, — сказаў прэзідэнт.— Людзі ўжо «наеліся» гэтых «ізмаў», таму давайце будаваць грамадства, у якім яны будуць жыць добра. У эканоміцы адказаць на гэта пытанне працай — мы будуем многаўкладную эканоміку, у якой будзе як дзяржаўная, так і прыватная ўласнасць, мы пераходзім ад планавай эканомікі да свабоднарэгулюемай. Зыходзячы з гэтага, гуманітарыі павінны выпрацаваць нейкую дзяржаўную ідэю, ідэалогію. Яе нельга выпрацаваць у кабінетах, інакш грамадства яе не прыме. Але і сядзець і чакаць, калі яна з'явіцца сама па сабе, таксама нельга, неабходна паскорыць гэты працэс. І менавіта гэтага я чакаю ад вучоных».

Прэзідэнт адзначыў, што з распадам СССР з'явілася тэндэнцыя да ачарнення ўсяго, рэзкай, а тое і шалёнай крытыкі ранейшага грамадскага ладу, падштурхоўвання дзяржавы на шлях паскораных рыначных рэформаў. На думку прэзідэнта, сітуацыя ў грамадскіх, гуманітарных навуках, як люстэрка, паказала тую ліхаманку, у якой знаходзілася грамадства. І ўсё ж сапраўдная навука выстаяла, сказаў Аляксандр Лукашэнка. Нягледзячы на ўсе цяжкасці апошніх гадоў, яна захавала свой патэнцыял, навуковыя кадры, а унікальныя навуковыя школы, выдатныя адкрыцці беларускай навукі былі і застаюцца вядомы цывілізаванаму свету.

У Беларусі, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, склалася дакладная сістэма дзяржаўных і грамадскіх адносінаў, здольная ўплываць на сацыяльна-эканамічныя працэсы і функцыянаванне ўсіх галін улады. Распрацоўкі вучоных-грамадазнаўцаў па праблемах дзяржаўнай палітыкі павінны адпавядаць выбранаму сацыяльна-эканамічнаму і палітычнаму курсу краіны і абапірацца на інтарэсы самога народа. Толькі пры такіх умовах, лічыць прэзідэнт, будзе ўмацоўвацца механізм стабілізацыі.

«Мы рашуча адмовіліся ад спроб канструявання духоўна-ідэалагічных асноў, арыентуючыся на модныя стандарты, — сказаў прэзідэнт. — Мода праходзіць, а духоўныя крыніцы народа павінны пастаянна быць гаючымі і чыстымі. Таму мы не сталі штучна фарсіраваць стварэнне агульнанацыянальнай ідэалогіі. Мы зыходзілі з таго, што яе ідэі павінны выкрышталізавацца, вызначыцца самім жыццём. Але гэта зусім не азначае, што мы можам аслабіць свае намаганні па развіццю і пашырэнню тых ідэалагічных прынцыпаў, на якія абапіраецца наша цяперашняя дзяржаўнасць. Больш таго, улічваючы палітычную і эканамічную сітуацыю ў свеце, вопыт апошніх дзесяцігоддзяў, а таксама сучасны пераходны стан Беларусі, мы павінны, абапіраючыся на вельмі багатую духоўную спадчыну беларускага народа і іншых брацкіх народаў, на класічную духоўную спадчыну ўсяго свету, сумесна мэтанакіравана працаваць над тэарэтычнымі і практычнымі праблемамі нацыянальнай беларускай ідэалогіі».

Базай для яе распрацоўкі, лічыць прэзідэнт, павінна стаць забеспячэнне фундаментальных каштоўнасцяў сацыяльнага і культурнага жыцця беларускага народа — патрыятызму, пачуцця Радзімы, сям'і, традыцый, а таксама прынцыпаў народнай этыкі і маралі, якія спакон веку ўкараніліся ў Беларусі. Усе формы грамадскай свядомасці ў нашай краіне павінны быць увязаны ў канчатковым выніку ў развітую сістэму ідэй і каштоўнасцяў новай дынамічнай грамадскай свядомасці, здольнай адказаць на ўсе выклікі надыходзячага XX1 стагоддзя. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што пабудова сучаснай дзяржавы патрабуе моцнай улады, умацавання рэгулюючай ролі дзяржавы, якая павінна абапірацца на трывалую прававую аснову і мець канкрэтныя палітычныя і сацыяльна-эканамічныя мэты. «Пабудова сацыяльнай прававой дзяржавы і фарміраванне дэмакратычнага грамадзянскага грамадства - працэсы ўзаемазвязаныя. Вынікам іх паспяховага ажыццяўлення павінна стаць эфектыўная дзяржаўнасць як галоўны сродак забеспячэння ўсебаковага развіцця беларускага грамадства і кожнай асобы», — заявіў прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка лічыць, што эканамісты маглі куды больш актыўна праявіць сябе і ў ацэнцы глабальных працэсаў і праблем. «Ненармальная і абсурдная сітуацыя, калі адна частка чалавецтва жыве за кошт другой, — сказаў кіраўнік дзяржавы. — Для соцень мільёнаў людзей сталі недаступнымі элементарныя матэрыяльныя і культурныя даброты. Канкурэнцыя ў сусветнай палітыцы і эканоміцы набыла хвараваты характар. На долю дваццаці працэнтаў найбольш багатай часткі насельніцтва планеты прыпадае восемдзесят пяць працэнтаў сусветнага даходу, а на долю астатніх васьмідзесяці працэнтаў насельніцтва — толькі пятнаццаць працэнтаў. Сем краін свету — ЗША, Англія, Германія, Францыя, Італія, Японія, Канада — цяпер кантралююць чатыры пятыя сусветнага рынку высокатэхналагічнай і інавацыйнай прадукцыі. Ці нармальны гэты працэс? Якія задачы стаяць у сувязі з гэтым перад суверэннай Беларуссю? Сёння на беларускую эканоміку робіць уплыў не столькі расійскі рубель і ўкраінская грыўня, колькі долар ЗША і нямецкая марка. Таму нам вельмі патрэбна выверaная і прафесійная валютна-фінансавая палітыка, ад якой напрамую залежыць дабрабыт нашай дзяржавы».

Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да акадэмічных і універсітэцкіх вучоных з дзяржаўнай задачай: стварыць магутныя, шырокапрофільныя, сучасныя эканамічныя школы, якія абслугоўвалі б канкрэтныя патрэбнасці нашай нацыянальнай эканомікі.

«Сёння перад уладай стаіць задача забяспечыць усе неабходныя ўмовы для работы вучоных-грамадазнаўцаў, тэарэтыкаў і практыкаў педагагічнага працэсу, — сказаў прэзідэнт. — Без гэтага мы не зможам задаволіць канкрэтныя патрэбнасці грамадства, — як ужо асэнсаваныя практыкай і рэалізаваныя ў дэкрэтах, законах і ўказах, так і тыя, што яшчэ не знайшлі дзейсных арганізацыйных прынцыпаў свайго вырашэння».

На нарадзе не прымаліся ніякія падагульняючыя дакументы, не даваліся канкрэтныя даручэнні. Галоўным яе вынікам, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, стала тое, што пакладзены пачатак дыялога паміж уладай і вучонымі-гуманітарыямі. На думку прэзідэнта, у грамадстве павінна быць праведзена адкрытая дыскусія — як у міністэрскіх кабінетах, так і ў навуковых установах, якая б дапамагла выпрацаваць нашу нацыянальную ідэю.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## Таблеткі ад «падпольшчыкаў»

**Некалькі грамадзян нашай рэспублікі затрыманы ў Польшчы: усе яны падазраюцца ў тым, што прымалі ўдзел у нелегальным бізнесе, які «накрыла» мясцовая паліцыя.**

Мяркуючы па інфармацыі, якую ўдалося атрымаць, прадукцыя павінна была трапіць на тэрыторыю краін СНД. Несумненна, улічваючы той факт, што беларусы таксама прымалі ўдзел у «вытворчасці», не абышла б бокам прадукцыя «падпольшчыкаў» і нашу краіну. Размова ідзе аб падпольных фармацэўтах, група якіх працавала ў Польшчы. Паліцыі ўдалося канфіскаваць у іх каля шаснаццаці мільёнаў таблетак індыйскай вытворчасці, якія, на думку экспертаў, наўрад ці можна назваць лячэбнымі. Тым не менш, «аптэкары» разлічвалі на тое, што тавар будзе хадавым. Сакрэт аферы заключаўся ў тым, што таблеткі расфасоўваліся ў прыгожыя абгорткі і набывалі выгляд прадукцыі прэстыжных еўрапейскіх фірмаў. Трэба меркаваць, што эфект ад прыёму такіх лекаў быў бы сумнiўным.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Не «падмазаў»...

Віцебскай транспартнай пракуратурай узбуджана крымінальная справа супраць аднаго з «харчовых чаўнакоў». Спачатку ён быў затрыманы за незаконны вываз у Расію 60 кг масла. Каб «замяць» справу, «харчовы» кантрабандыст спрабаваў даць хабар у памеры 3 мільёнаў рублёў работнікам міліцыі. Але «падмазаць» вартаўнікоў правапарадку не ўдалося. Цяпер «чаўнаку», відаць, давядзецца адказваць перад законам за спробу даць хабар міліцыянерам.

**Аляксей ТАРАНАЎ, начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

# РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 4

## Аб рабоце абласных, Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў, Мінгандлю і Белкаапсаюза па гандлёваму і бытавому абслугоўванню насельніцтва

1. Адзначыць, што аблвыканкамамі, Мінскім гарвыканкамам, Мінгандлю, Белкаапсаюзам, Белбытсаюзам ажыццёўлены меры па найбольш поўнаму задавальненню патрэбнасцяў насельніцтва ў таварах і паслугах. За 10 месяцаў 1998 года і ў перыяд з 11 лістапада 1998 г. тавараабарот склаў 129,6 працэнта ад узроўню адлаведнага перыяду 1997 года. Перавыкананы заданні па тавараабароту ва ўсіх абласцях і г.Мінску.

За студзень — кастрычнік 1998 г. аб'ём платных паслуг насельніцтву склаў 30.568 млрд. рублёў (113,9 працэнта), у тым ліку бытавых паслуг — 5.927 млрд. рублёў (114,2 працэнта). Тавараабарот па сістэме Белкаапсаюза дасягнуў 139 працэнтаў, доля яго ў агульным тавараабароце рэспублікі павысілася з 18,5 працэнта ў студзені да 21,3 працэнта ў кастрычніку. Аб'ёмы закупак сельскагаспадарчай прадукцыі і сыравіны павялічаны на 14,8 працэнта.

Аб'ём вытворчасці тавараў народнага спажывання за гэты перыяд узрос на 17,4 працэнта (у кастрычніку — 11 працэнтаў) у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, з іх харчовых тавараў — адлаведна на 13 працэнтаў (5,7 працэнта), нехарчовых тавараў — на 20,9 працэнта (13,3 працэнта). За 10 месяцаў 1998 года на ўнутраны рынак пастаўлена тавараў лёгкай прамысловасці ў аб'ёме 78 працэнтаў ад іх вытворчасці, прадукцыі харчовай прамысловасці — 93, лясной і дрэваапрацоўчай галін — 72 працэнты.

У рэспубліцы створаны дзяржаўны харчовы рэзерв прадуктаў жывёлагадоўлі і плодаагародніннай прадукцыі на асенне-зімовы перыяд. Па стану на 5 лістапада 1998 г. на прадпрыемствах Мінсельгасхарча і ў гандлі запасы мяса склалі 4,2 тыс. тон, масла — 7,8, малака сухога — 3,8, тварагу — 1,5, сыроў цвёрдых —3,4 тыс. тон. Нарыхтавана таксама 100,2 тыс. тон бульбы, 46,2 тыс. тон агародніны, 4,8 тыс. тон садавіны. Работа ў гэтым напрамку працягваецца.

У кастрычніку-лістападзе 1998 г. урад ажыццявіў шэраг дадатковых мераў па нармалізацыі сітуацыі на спажывецкім рынку рэспублікі. Прыняты рашэнні аб утварэнні стабілізацыйных фондаў харчовых тавараў, упарадкаванні вывазу тавараў за межы рэспублікі, зацвярджэнні пералікаў абавязковага асартыментнага мінімуму тавараў, пастаўцы на ўнутраны рынак 80 тыс. тон цукру, дадатковай пастаўцы насельніцтву г.Мінска 2 тыс. тон мясапрадуктаў, 20 тыс. тон малакапрадуктаў.

Праведзены пашыраныя пасяджэнні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, калегій (праўленняў, саветаў) Мінгандлю, Белкаапсаюза, Белбытсаюза, шэрагу іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, вызначаны канкрэтныя планы аператыўных дзеянняў па забеспячэнню насельніцтва таварамі.

Разам з тым названымі дзяржаўнымі органамі не ліквідаваны хібы ў арганізацыі гандлю і забеспячэння насельніцтва ў першую чаргу харчовымі таварамі. У абмежаваным аб'ёме працягваюць пастаўляцца ў гандлёвую сетку яйкі, мяса птушкі, свініна. З перабоямі ажыццяўляецца пастаўка і некаторых іншых відаў харчовых тавараў. Асобнымі прадпрыемствамі спажывецкай кааперацыі, асабліва ў сельскай мясцовасці, не захоўваюцца даведзеныя ім пералікі асартыментнага мінімуму тавараў, не забяспечваецца захаванасць якасці мясной прадукцыі, што паступае для рэалізацыі, аслаблена работа па арганізацыі закупкі ў насельніцтва прадукцыі жывёлагадоўлі.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы слаба ўплываюць на паляпшэнне гандлёвага абслугоўвання насельніцтва, асабліва сельскага.

2. Прыняць да ведама інфармацыю намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Козіка Л.П., кіраўніцтва аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама аб прыняцці імі канкрэтных мераў па мабілізацыі намаганняў рэспубліканскіх і мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў на выкананне патрабаванняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, рашэнняў Рэспубліканскага штаба пры Прызідэнце Рэспублікі Беларусь аб насычэнні спажывецкага рынку таварамі, паляпшэнні арганізацыі гандлю імі і бытавога абслугоўвання насельніцтва.

3. Адобрыць мерапрыемствы Савета Міністраў па насычэнню спажывецкага рынку таварамі, паляпшэнню арганізацыі гандлю і бытавога абслугоўвання насельніцтва (рашэнне Прэзідыума Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 лістапада 1998 г.).

Ускласці на кіраўнікоў міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў, падпарадкаваных ураду, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама адказнасць за безумоўнае выкананне названых мерапрыемстваў, і перш за ўсё заданняў па бесперабойнаму забеспячэнню насельніцтва неабходнымі харчовымі і прамысловымі таварамі.

4. Камітэту дзяржаўнага кантролю арганізаваць праверкі выканання дзяржаўнымі органамі на месцах, калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі, прамысловымі прадпрыемствамі і аб'яднаннямі адобраных гэтым рашэннем мерапрыемстваў Савета Мінстраў, а таксама стану спраў у гарадах і раёнах рэспублікі з задавальненнем попыту насельніцтва на тавары і паслугі, прымаць меры для спынення нераспарадчасці і нядбайнасці работнікаў гандлю, ліквідацыі фактаў псавання і страты спажывецкіх тавараў, парушэнняў устаноўленага парадку іх рэалізацыі. Аб выніках праверак, якія праводзяцца на месцах, інфармаваць Рэспубліканскі штаб.

5. Белкаапсаюзу, аблвыканкамам навесці належны парадак у арганізацыі гандлю ў сельскай мясцовасці, забяспечыць безумоўнае захаванне прадпрыемствамі гандлю даведзенага ім асартыментнага мінімуму тавараў, рэгулярнасць іх завозу. У мэтах павелічэння таварных рэсурсаў рэгіёнаў і больш поўнага задавальнення патрэбнасцяў у іх насельніцтва забяспечыць расшырэнне нарыхтоўчай сеткі па закупцы ў насельніцтва лішкаў прадукцыі асабістых падсобных гаспадарак, адшуканню сумесна з прамысловымі прадпрыемствамі магчымасцяў для завозу неабходных тавараў і сыравіны з-за межаў рэспублікі.

6. Кіраўнікам аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама сумесна з кіраўніцтвам прамысловых прадпрыемстваў, размешчаных на адпаведных тэрыторыях:

арганізаваць стацыянарныя пункты гандлёвага і бытавога абслугоўвання працоўных калектываў гэтых прапрыемстваў;

садзейнічаць у забеспячэнні іх неабходнымі таварамі па даступных цэнах, у тым ліку за кошт тавараабменных аперацый, заключэння найбольш выгадных кантрактаў, адшукання і выкарыстання ўнутраных матэрыяльных і фінансавых рэзерваў.

7. Мінсельгасхарчу, аблвыканкамам забяспечыць у лістападзе і снежні 1998 г. пастаўку прадуктаў харчавання на ўнутраны рынак у аб'ёмах, роўных сярэднямесячнай пастаўцы іх па ўстаноўленых на 1998 год заданнях (квотах, дзяржзаказу).

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М.МЯСНІКОВІЧ**

*18 лістапада 1998 г. г.Мінск.*

# РАШЭННЕ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ШТАБА ПРЫ ПРЭЗІДЭНЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 5

## Аб рабоце праваахоўных органаў і судоў Рэспублікі Беларусь па выкананню рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб абароне спажывецкага рынку і валютным рэгуляванні ў Рэспубліцы Беларусь

1. Абмеркаваўшы даклад дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Шэймана В.У., паведамленні па гэтаму пытанню членаў штаба, Рэспубліканскі штаб пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь адзначае неабходнасць удасканалення дзейнасці выканкамаў, мясцовых Саветаў, праваахоўных органаў і судоў, утвораных на месцах камісій па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай або накіраванай у даход дзяржавы іншым спосабам, а таксама дзеючага заканадаўства па абароне спажывецкага рынку і валютнага рэгулявання ў рэспубліцы.

2. МУС, Дзяржкампагранвойскаў, Дзяржмытні, Дзяржаўнаму камітэту фінансавых расследаванняў і Дзяржаўнаму падатковаму камітэту ўзмацніць кантроль за выкананнем патрабаванняў Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 верасня 1998 г. № 15 «Аб неадкладных мерах па абароне спажывецкага рынку» і ад 5 лютага 1997 г. № 1 «Аб мерах па забеспячэнню парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый». Разгледзець да 25 лістапада 1998 г. на пасяджэннях калегій гэтыя пытанні і прыняць канкрэтныя меры па павышэнню рэзультатыўнасці і эфектыўнасці работы, якая праводзіцца ў гэтым напрамку, а таксама адпаведныя меры адміністрацыйнага рэагавання ў адносінах да службовых асоб, якія дапусцілі хібы ў рабоце.

3. Прыняць да ведама, што МУС, Дзяржаўным камітэтам фінансавых расследаванняў і КДБ ажыццяўляюцца меры па выяўленню асоб, для якіх незаконныя абменныя аперацыі з валютай сталі злачынным промыслам, месцаў правядзення названых аперацый, а таксама фактаў скупкі валюты ў абменных пунктах на падстаўных асоб і (або) па змове з упаўнаважанымі службовымі асобамі банкаў і дылінгавых кампаній.

4. Рэспубліканскай камісіі па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, затрыманай, арыштаванай, канфіскаванай ці накіраванай у даход дзяржавы іншым спосабам, ва ўзаемадзеянні з Дзяржаўным падатковым камітэтам, Вярхоўным судом, Вышэйшым гаспадарчым судом, аблвыканкамамі і Мінскім гарвыканкамам выпрацаваць адзіны падыход да арганізацыі дзейнасці на месцах падатковых органаў, адпаведных камісій і судоў па накіраванню ў даход дзяржавы названай маёмасці. Тэрмін — 25.11.1998.

5. Нацыянальнаму банку, Мінзнешэканомсувязяў, Мінэканомікі, Камітэту дзяржаўнага кантролю прапрацаваць пытанне аб удасканаленні дзеючых прававых нормаў, якія дапускаюць пераход да трэціх асоб правоў і абавязкаў па грашовых абавязацельствах у частцы знешнеэканамічных здзелак. Тэрмін — 25.11.1998.

6. Нацыянальнаму банку сумесна з Дзяржаўным падатковым камітэтам да 1 снежня 1998 г. падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае механізм аператыўнага кантролю сум сродкаў, што знаходзяцца на рахунках суб'ектаў гаспадарання, штомесячны абарот якіх па разліковых (бягучых) і іншых рахунках перавышае 100 тыс. мінімальных заработных плат.

7. Савету Міністраў у двухтыднёвы тэрмін падрыхтаваць і ўнесці ў Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь праект нарматыўнага акта, што прадугледжвае прадстаўленне заснавальнікамі юрыдычных асоб і фізічнымі асобамі (для рэгістрацыі ў якасці прадпрымальніка, які ажыццяўляе сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы) звестак аб пашпартных даных з узорамі подпісаў, завераных пашпартнымі службамі органаў унутраных спраў.

8. Прапанаваць МУС сумесна з Пракуратурай удакладніць методыку ўліку і статыстычнай справаздачнасці па справах аб адміністрацыйнай адказнасці, што вынікае з валютных правапарушэнняў.

9. Прыняць да ведама паведамленне Пракуратуры і Вярхоўнага суда аб правядзенні імі аналізу і абагульнення практыкі разгляду спраў, звязаных з канфіскацыяй (накіраваннем у даход дзяржавы іншым спосабам) маёмасці.

10. Міністэрству аховы здароўя прааналізаваць стан і прыняць меры для ўдасканалення работы санітарна-эпідэміялагічных органаў, адказных за аналіз харчовых прадуктаў, накіраваных у даход дзяржавы. Тэрмін — 25.11.1998.

**Кіраўнік Рэспубліканскага штаба пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь М.МЯСНІКОВІЧ.**

*18 лістапада 1998 г. г.Мінск.*

**Менавіта вось так, сціпла і ўсёабдымна: землякі. Каб нікога не пакрыўдзіць афіцыйным «суграмадзяне» або крыху звужаным «беларусы». Бо ўсіх астатніх жыхароў Беларусі таксама хвалюе праблема, пра якую пойдзе рэч.**

# ЯКОГА ФЕНІКСА БУДЗЕМ ЛАВІЦЬ У СІНІХ НЯБЁСАХ, ЗЕМЛЯКІ?

СПАЧАТКУ СКАЖЫЦЕ: за што цікавей працаваць — за грошы ці за ідэю? Лепшы адказ абсалютна ў духу братка-палешука: за ідэю, але каб і за грошы. Дык вось, сёння так не бывае. Сёння грошай можа быць больш або менш, а ідэй не засталося зусім. І грамадству адчувальна перашкаджае духоўны вакуум, што ўтварыўся накшталт гіганцкай азонавай дзіркі. У найбольш дальнабачных ён выклікае жах.

Вызначэнне нацыянальнай ідэі, якая б з'яднала сінявокую ў дружнай калектыўнай працы і дала нейкае абгрунтаванне чалавечым памкненням (бо спрадвечныя ісціны «жывым у зямлю не палезеш» і «вельмі есці хочацца» тлумачаць многае, але не ўсё), становіцца агульнанацыянальнай, першаступеннай важнасці праблемай.

Праўда, існуе і такі да яе падыход: давайце спачатку вылезем з эканамічнага крызісу (утрымаем «сініцу» ў руках), а ўжо потым будзем займацца хімерамі накшталт выдумкі ідэй (лавіць «жураўля» ў небе). Прыхільнікі яго не хочуць верыць, што сувязь тут самая што ні ёсць прамая.

Увогуле існуе багата падыходаў, у чым аглядальнік «Звязды» пераканаўся на мерапрыемстве, якое чамусьці называлася «міжнароднай» навукова-практычнай канферэнцыяй. Калі ўзяць пад увагу, што прысутнічалі два навукоўцы з вядомымі імёнамі — Вілен Іваноў і Аляксандр Капто з братняга «блізкага» замежжа, то што ж, хай сабе і міжнародная. Праўда, статусу крышку не адпавядала халодная зала (засядалі ў паліто) на самай ускрайне Мінска, у новым будынку акадэміі фізвыхавання і спорту. Ды і аўдыторыю навукоўцаў можна было сабраць «пад тэму» куды большую. Тым не менш, крок у патрэбным напрамку зроблены, падзякуем за тое яго арганізатарам, і ў першую чаргу дэпутату парламента Ігару Катлярову. Будзем лічыць, што пакладзены пачатак сапраўды калектыўнага пошуку, і наступным разам будуць запрошаны прадстаўнікі ўсяго спектра думак — «згодныя» і «нязгодныя», і для дыскусіі будуць адведзены лепшыя сталічныя залы і нават трыбуна СМІ.

Пераважалі сацыёлагі, палітолагі, філосафы і палітыкі — людзі таксама з імёнамі: Яўген Бабосаў, Галіна Сакалова, Леанід Лыч, Яўген Матусевіч, Анатоль Уласаў (пералік можна працягваць), і погляд на рэчы быў цалкам дыялектычны. З'яву разглядалі ў шырокім коле ўзаемасувязяў.

Адны выступоўцы падкрэслівалі, што праблема нацыянальнай ідэі неадрыўная ад праблемы захавання дзяржаўнасці, беларускасці, наогул ад нацыянальнага адраджэння. Зразумець сваю беларускасць, лічаць яны, дапамогуць трывалыя пазіцыі ўласнай культуры і беларускай мовы, а не каўбаса на паліцах, хоць і дабрабыт канкрэтнага чалавека справа не дзесятая. Важна толькі знаходзіць разумныя суадносіны паміж уласнай і не ўласнай культурай і мовай.

У адказ іншыя аратары гаварылі, што ў шматнацыянальнай краіне, якой з'яўляецца Беларусь, не можа быць нацыянальнай дзяржавы, і сама ідэя павінна быць агульнаграмадзянскай. Тады не ўзнікнуць праблемы нацыянальных меншасцяў, моўныя праблемы. Тут жа вылучаўся лозунг саюзнасці як асноўнай катэгорыі дзяржаўнай ідэі, і на ўвазе мелася зліццё ў перспектыве ў адзінай дзяржаве, а зусім не незалежнасць.

Другія меркавалі, што невялікая дзяржава наогул не можа сабе дазволіць адкрыта сфарміраваць уласную ідэю, ёй наканавана прытрымлівацца «залежнага нейтралітэту». Тады наступны выступаючы звяртаў увагу на тое, што ў сённяшняй Еўропе знаходзяцца сілы, якія фактычна заклікаюць да перагляду вынікаў другой сусветнай вайны, і ніякі нейтралітэт тут не дапаможа. А таму вяртаўся да асноўных нацыянальных інтарэсаў — геапалітычных, палітычных, эканамічных, сацыяльных і іншых, якія так важна ўлічыць і забяспечыць у гэтым зменлівым свеце.

Успаміналі найбольш вядомыя ідэі-лозунгі розных часоў і народаў: «Свабода, роўнасць і братэрства». Або вось такі: «Амерыка ўсё, увесь свет нішто». Спрабавалі сфармуляваць уласную канструкцыю. Ну вось такую, да прыкладу: «Дабрабыт. Незалежнасць. Свабода». Калегі пыталіся: «А маральнасць? У нас ніхто не прытрымліваецца законаў. Усё трымаецца на маралі. Адыміце яе — дзяржава рассыплецца, як картачны дамок».

А сапраўды, якія «кампаненты» маглі б узбагаціць жаданую мадэль? Самабытнасць. Шлях да верхавенства закона. Справядлівасць і патрыятызм. Абвяшчэнне чалавека вышэйшай каштоўнасцю. Суверэнітэт. І побач раптам называлі «здаровы практыцызм». Пальцаў «загнулі» шмат, і паняцці гучалі ў прынцыпе правільныя, нават святыя.

Адным словам, ніхто нікога канчаткова не пераканаў, што на сённяшні дзень сапраўды магчыма існаванне ідэі, якая зможа аб'яднаць усе сацыяльныя групы, усіх жыхароў Рэспублікі Беларусь. Але ніхто нікога асабліва і не стараўся пераканаць у адваротным. Здаецца, няпэўнасць надакучыла ўсім.

Дык якую птушку будзем лавіць, землякі? І яшчэ: у рэшце рэшт, калі?!

**Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

*АД РЭДАКЦЫІ. Улічваючы, што тэма сапраўды таго заслугоўвае, запрашаем чытачоў прыняць удзел у яе абмеркаванні на старонках газеты.*

## Эпідэміялагічная сітуацыя ў краіне ў руках валютнага дэфіцыту

**Згодна з прагнозам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і расійскага навукова-даследчага інстытута грыпу, у снежні-студзені ў краіны СНД прыйдзе эпідэмія грыпу.**

Як паведаміў «Звяздзе» галоўны эпідэміёлаг Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Анатоль Кажамякін, зараз у рэспубліцы назіраецца сезонны ўздым рэспіраторных захворванняў. Так, у першы тыдзень лістапада ў кантрольных гарадах нашай краіны быў зарэгістраваны 42.031 захварэўшы, а з 9 па 14 лістапада іх колькасць узрасла ўжо да 47.724 чалавек. І хаця эпідэмічны парог яшчэ нідзе не быў перавышаны, усё ж такі спецыялісты вымушаны канстатаваць, што захворваемасць трымаецца сёлета на даволі высокім узроўні. Напрыклад, у гэты ж перыяд мінулага года захварэўшых было на 3-4 тысячы менш, а ў самыя спакойныя гады ўвогуле рэгістравалася ўсяго па 20—30 тысяч хворых.

Звычайна напярэдадні сезоннага пад'ёму рэспіраторных захворванняў насельніцтву пачыналі рабіць процігрыпозныя прышчэпкі, якія калі і не давалі 100-працэнтнай гарантыі ад захворвання на грып, то ва ўсякім разе змякчалі магчымыя ўскладненні ад перанесенага захворвання.

Сёлета ж нікому прышчэпкі пакуль так і не рабіліся, хаця традыцыйна на вакцынацыю адводзіўся кастрычнік-лістапад. У кастрычніку адсутнасць процігрыпознай вакцыны ў бальнічных установах краіны ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі нашай газеце растлумачылі цяжкасцямі з канвертацыяй валюты.

І ўсё ж, як запэўніў «Звязду» начальнік Галоўнага ўпраўлення гігіены, эпідэміялогіі і прафілактыкі Міністэрства аховы здароўя РБ Фёдар Германовіч, яны знойдуць шляхі, каб забяспечыць бальнічныя ўстановы рэспублікі 8 абавязковымі вакцынамі. Процігрыпозная вакцына ў іх лік не ўваходзіць...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# ЕГІПЕТ ІМКНЕЦЦА ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА З БЕЛАРУССЮ

На працягу тыдня, у Арабскай Рэспубліцы Егіпет знаходзілася беларуская дэлегацыя на чале з міністрам знешніх эканамічных сувязяў Міхаілам Марынічам. У састаў дэлегацыі таксама ўваходзілі намеснік міністра абароны В. Кастэнка, прэзідэнт Беларускай гандлёва-прамысловай палаты У. Лясун, генеральны дырэктар ВА «БелаўтаМАЗ» У. Гурыновіч і іншыя прадстаўнікі дзелавых колаў нашай краіны.

Графік візіту быў вельмі насычаны і прадугледжваў сустрэчы з прэм'ер-міністрам Егіпта, міністрамі прамысловасці, гандлю, міжнароднага супрацоўніцтва, абароны, абароннай прамысловасці, кіраўніцтвам мэрыі Каіра і федэрацыі гандлёва-прамысловых палат. Асаблівая ўвага падчас сустрэч надавалася рэалізацыі дамоўленасцяў, якія былі дасягнуты падчас сёлетняга візіту ў Егіпет Аляксандра Лукашэнкі. Дарэчы, стала вядома, што ў наступным годзе ў Мінск прыедзе кіраўнік Кабінета міністраў Егіпта Камаль аль-Ганзуры. А неўзабаве ў беларускую сталіцу будзе накіравана група егіпецкіх экспертаў для вывучэння магчымасцяў двухбаковага гандлю. Верагодна, будзе арганізавана выстава тавараў вытворчасці прадпрыемстваў АРЕ. Егіпецкі бок выказаў зацікаўленасць у арганізацыі супрацоўніцтва ў галіне парашковай металургіі і электронікі.

Значным крокам стала адкрыццё сумеснага беларуска-егіпецкага прадпрыемства па зборцы аўтамабіляў «МАЗ».

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ДЫСКУСІЯ Ў ВАРШАВЕ ПА ЧАЛАВЕЧАМУ ВЫМЯРЭННЮ

Не зусім звыклы для нас тэрмін «чалавечае вымярэнне» ўвасабляе ў сабе ўвесь комплекс праблем, якія так ці інакш звязаны з жыццём людзей у грамадстве. З кожным годам гэтая праблематыка набывае ўсё большае значэнне ў дзейнасці АБСЕ — Арганізацыі па супрацоўніцтву і бяспецы ў Еўропе. Ход выканання абавязацельстваў у галіне чалавечага вымярэння дзяржавамі — удзельніцамі АБСЕ абмяркоўваецца на традыцыйных нарадах гэтай арганізацыі. Чарговая, чацвёртая па ліку, падобная нарада нядаўна адбылася ў сталіцы Польшчы.

На ёй прысутнічала і, як паказала потым наступная прэс-канферэнцыя, актыўна папрацавала дэлегацыя Беларусі. Яе ўдзельнікі на сустрэчы з журналістамі высока ацанілі ўзровень дыскусіі, дыялога і глыбіню разглядаемых на нарадзе праблем. Яны былі аб'яднаны ў 12 блокаў: верхавенства закона, адмена смяротнага пакарання, свабода думкі, сумлення і перакананняў, СМІ, раўнапраўе мужчыны і жанчыны, адукацыя і інш.

У састаў афіцыйнай беларускай дэлегацыі ўваходзілі прадстаўнікі дзяржаўных устаноў — намеснік міністра замежных спраў Н. Мазай (кіраўнік); В. Сукала, старшыня Вярхоўнага суда; Ю. Кулакоўскі, старшыня камісіі па правах чалавека і нацыянальных адносінах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, І. Яновіч, намеснік дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.

Разам з імі ў агульнай дыскусіі ўдзельнічалі і прадстаўнікі шасці недзяржаўных арганізацый, хаця спачатку іх было зарэгістравана ажно адзінаццаць. Але і гэтага хапіла для таго, каб беларуская тэматыка прагучала ў Варшаве. Справа ў тым, што сёлета, у адрозненне ад былых падобных нарадаў, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый былі працэдурна ўраўнаваны з афіцыйнымі дэлегацыямі. Гэта давала магчымасць усім удзельнікам актыўна выказвацца па ўсяму комплексу праблем.

Абвінавачваліся беларускія ўлады і прадстаўнікамі замежных няўрадавых арганізацый. І, як зазначыў В. Сукала, часам рабілася гэта без усякіх на тое падстаў. Ён прывёў прыклад, як адзін прадстаўнік ЗША назваў сур'ёзнай беларускай праблемай прымяненне катаванняў у турмах. В. Сукалу прыйшлося грунтоўна пераконваць яго і іншых прысутных у тым, што гэта абвінавачанне абсалютна надуманае, катаванням зняволеных у Беларусі няма месца. Хаця, як прызнаў старшыня Вярхоўнага суда, утрыманне ў турмах не зусім адпавядае міжнародным стандартам. Але гэта праблема ўжо больш эканамічная, чым прававая.

Па словах В. Сукалы, многія яго замежныя субяседнікі ў Варшаве былі прыемна здзіўлены тым, што на Беларусі ўведзена практыка бестэрміновага, ці пажыццёвага, прызначэння суддзяў. Далёка не кожная краіна можа гэтым пахваліцца. Але з іншага боку былі прэтэнзіі з нагоды прымянення ў Беларусі смяротнага пакарання. В. Сукала адказваў на іх наступным чынам: смяротнае пакаранне ў нас прымяняецца пераважна за дзікія, жорсткія, цяжкія забойствы. Але з увядзеннем у Крымінальным кодэксе пажыццёвага зняволення гэта мера пакарання з часам будзе выкарыстоўвацца больш шырока.

У прадстаўнікоў беларускай афіцыйнай дэлегацыі ў Варшаве пыталіся наконт таго, ці не выкліканы арышты і ўтрыманне за кратамі Віннікавай, Клімава, шэрагу іншых асоб па палітычных матывах? Давялося членам дэлегацыі пераконваць у тым, што ўсе яны абвінавачваюцца выключна ва ўчыненні крымінальных правапарушэнняў.

На думку Ю. Кулакоўскага, шчырая, адкрытая, зацікаўленая размова беларускай дэлегацыі, у якой не замоўчваліся нашы недахопы, а даваліся аргументаваныя адказы на несправядлівую крытыку, выклікала сімпатыю да яе з боку кіраўніцтва АБСЕ, іншых афіцыйных дэлегацый.

Па агульнаму меркаванню ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, свой уклад у разуменне сітуацыі ўнесла выступленне прадстаўніка Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Э. Канкевіч, якая падагульніла вынікі работы групы за мінулы перыяд і расказала пра планы супрацоўніцтва на бліжэйшую будучыню. Прадстаўнікі беларускай дэлегацыі далі станоўчую ацэнку дзейнасці групы і пацвердзілі гатоўнасць урада да прадаўжэння ўзаемавыгаднага і канструктыўнага супрацоўніцтва.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# КІДАЙ КУРЫЦЬ — СТАНАВІСЯ НА ЛЫЖЫ!

**21 лістапада па рашэнню ААН ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень адмовы ад курэння. Наколькі паінфармаваныя аб гэтым нашы суайчыннікі, мы вырашылі праверыць на практыцы. Для гэтага на вуліцах Мінска мы правялі невялікае сацыялагічнае апытанне.**

*З 15 апытаных чалавек рознага ўзросту і розных прафесій толькі адзін чалавек (ён не прадаставіўся і сказаў, што чуў аб гэтым па радыё) адказаў станоўча на маё пытанне, які дзень сёння адзначаецца. Астатнія чатырнаццаць няўцямна паціскалі плячыма. З гэтых пятнаццаці мінчан і гасцей горада — шэсць курцоў. Для іх мы падрыхтавалі такую групу пытанняў:*

***1. Як даўно вы курыце?***
***2. Па якой прычыне вы закурылі?***
***3. Ці спрабавалі кінуць?***

**Пётр ЛАШКЕВІЧ, 48 гадоў, слесар:**

**1.** Стаж у мяне ўжо вялікі — 34 гады.

**2.** З-за даўнасці дакладную прычыну ўжо не памятаю.

**3.** Спрабаваў адзін раз, але нічога не атрымалася.

**Каха КАЎСАДЗЕ, 25 гадоў, працуе адміністратарам:**

**1.** Ужо споўнілася сем гадоў з таго моманту, як я ўпершыню закурыў.

**2.** Прычын ніякіх не было, проста ўзяў ды закурыў.

**3.** Спрабаваў, але не атрымліваецца.

**Канстанцін АРЛОЎ, 57 гадоў, зваршчык:**

**1.** Я куру ўжо 36 гадоў.

**2.** Дзеля забавы.

**3.** Спрабаваў. Тры гады не курыў і лепш сябе адчуваў, а потым зноў узяўся за старое.

**Міхаіл ТАЎЧОНЫ, 56 гадоў, грузчык:**

**1.** Я закурыў у школе. Колькі гадоў куру, не лічыў.

**2.** За кампанію.

**3.** Бывала. Лічу, што можна не курыць, калі зусім не п'еш нічога. А я, як вып'ю чарку, — зноў за цыгарэту.

**Ігар РЫГОРАЎ, 29 гадоў, працуе зваршчыкам:**

**1.** Ужо шэсць гадоў

**2.** Гэта было яшчэ ў вучылішчы, калі мы з хлопцамі знайшлі сем пачкаў «Астры». Памятаю той момант, калі прыйшоў увесь абкураны дадому і маці з рэмнем суправаджала да ложка.

**3.** Не, не спрабаваў

**Валянцін ЯРОМЕНКА, 37 гадоў, працуе ліцейшчыкам:**

**1.** Ужо 10 гадоў, як я куру.

**2.** Не было ніякай прычыны, проста было цікава.

**3.** Спрабаваў, але не атрымалася.

*Для людзей, якія не кураць, мы падрыхтавалі іншыя пытанні:*

***1. Ці спрабавалі вы закурыць?***
***2. Па якой прычыне?***

**Тамара ПЯТРОВА, 50 гадоў, прадавец:**

**1.** Так.

**2.** Гэта было дзеля жарту.

**Студэнтка БДУІРа, 24 гады:**

**1.** Спрабавала адзін раз. Гэта было дзевяць гадоў таму.

**2.** За кампанію.

**Марына ЮШЧАНКА, 28 гадоў, інжынер:**

**1.** Спрабавала.

**2.** Дакурыла цыгарэту свайго мужа, але мне гэта не спадабалася.

**Аліна АНДРЭЕВА, 44 гады, аператар:**

**1.** Я спрабавала закурыць, але ўсё вылілася ў тое, што я перыядычна выкурваю па адной цыгарэце ў тыдзень.

**2.** З-за нервовага стану.

**Валянціна КАЗЛОВА, вучаніца 8-га класа:**

**1.** Так.

**2.** За кампанію.

**Антон КУЖАЛЁЎ, 24 гады, электрык:**

**1.** Не, не спрабаваў. Мае сябры ўсе кураць, а ў мяне нават такога жадання не было.

**Алесь ПІНЧАНКА, студэнт:**

**1.** Спрабаваў.

**2.** З-за цікавасці.

**Дар'я МІКІЦІНА, 41 год, інжынер:**

**1.** Спрабавала.

**2.** Гэта было ў студэнцкія гады. Усе спрабавалі, і я таксама.

**Вольга ШУСТРЫК, вучаніца 10-га класа:**

**1.** Спрабавала.

**2.** Думала, што гэта прыдае дзяўчатам нейкі шарм перад хлопцамі, аказалася — наадварот.

Пасля ўсяго вышэйсказанага можна падвесці нейкія вынікі. І я думаю, што гэта трэба зрабіць кожнаму з вас: курыць ці не курыць. У кожнага свая галава на плячах. Але лепш — не курыце. Двайная эканомія: на цыгарэтах і на лякарствах.

**Вольга РАМАНЮК.**

## СЕННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.47 | 16.04 | 8.17 |
| Віцебск – | 7.43 | 15.48 | 8.05 |
| Магілёў – | 7.37 | 15.53 | 8.16 |
| Гомель – | 7.29 | 15.56 | 8.27 |
| Гродна – | 8.03 | 16.19 | 8.16 |
| Брэст – | 7.55 | 16.28 | 8.33 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 19 лістапада.**
***З 8.55 — 4-я месяцавыя суткі. Месяц — у сузор'і Стральца.***

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Гаўрылы, Міхаіла, Рафаіла**
**К. Кандрата, Конрада, Яна**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, вецер слабы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Магілёве — 9—11, Мінску — 8—10, Брэсце, Гродне, Гомелі — 7—9 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак пераважна без ападкаў, толькі ўдзень 23-га на паўднёвым захадзе рэспублікі ападкі, туман, галалёд. Вецер усходні і паўднёва-ўсходні, 5—10 м/сек. Тэмпература ўначы — 12—17, месцамі да 20, удзень 7—12 градусаў ніжэй нуля; 23-га па паўднёваму захаду ўначы — 5—10 градусаў марозу, удзень — плюс 1 — мінус 4.

## Віншаванні

*Віншуем з днём нараджэння **Надзею Іванаўну МАРОЗАВУ** з г. Лепеля. Дай Вам Бог добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і дабрабыту.*

**Мельнікавы і Марозавы з Мінска.**

*Віншуем з 40-годдзем **Паўла Генадзьевіча РАШЧЫНСКАГА**. Жадаем моцнага здароўя, бадзёрасці, удачы і заўжды добрага настрою.*

**Родныя,** *г. Лагойск.*

*Любага тату і мужа **Пятра Уладзіміравіча ПАПЛЕЎКУ** віншуем з 40-годдзем. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, любові.*

**Жонка, дзеці,** *г. Жодзіна.*

*Віншуем любую ўнучку Анастасію Алегаўну Пяцюк з днём нараджэння. Жадаем шчасця, удачы, радасці ў жыцці.*

***Дзед Сяргей, бабуся Соня і сястрычкі.***

*Няпроста нашым дыпламатам праводзіць сёння незалежную палітыку. Многіх чыноўнікаў высокага рангу, у тым ліку і дыпламатаў, што называецца, «адлучылі» ад Еўропы, як некалі адлучалі бязбожнікаў ад царквы. Спрабавалі «тармазнуць» нават старшыню Камісіі па міжнародных пытаннях і бяспецы Савета Рэспублікі Мікалая Чаргінца. Ва ўсякім разе, кіраўніцтва ЗША пайшло не так даўно на беспрэцэдэнтны крок: адмовіла пісьменніку, дзяржаўнаму дзеячу ў візе ў ААН (заўважце, міжнародную арганізацыю, а не ЗША), дзе ён павінен быў выступіць на сесіі. Ну ды гэта, як кажуць, на іх сумленні.*

*Але і ў такой няпростай абстаноўцы беларускія парламентарыі, дыпламаты знаходзяць шляхі для прасоўвання інтарэсаў нашай дзяржавы як на Захад, так і на Усход. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца курс на далейшае збліжэнне з Расіяй. І як адна з гэтых вехаў — дзевятая па ліку сесія Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі. У рабоце гэтага прадстаўнічага форуму прыняў удзел і Мікалай Чаргінец, які, дарэчы, з'яўляецца старшынёй Камісіі па пытаннях палітыкі і інфармацыі Парламенцкага Сходу Беларусі і Расіі. І хоць работа Сходу даволі грунтоўна асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі, тым не менш мы папрасілі Мікалая Чаргінца падзяліцца сваімі ўражаннямі аб гэтым самім.*

***Мікалай ЧАРГІНЕЦ:***

# «У ПАЛІТЫЦЫ ТРЭБА ДЗЕЙНІЧАЦЬ АДНАЧАСОВА ЦВЁРДА І ГІБКА»

— ПАКОЛЬКІ МНЕ БЫЛО даручана апекавацца над даволі прадстаўнічай дэлегацыяй югаслаўскіх парламентарыяў, што прымалі ўдзел у рабоце нашага Сходу ў якасці гасцей, — гаворыць Мікалай Іванавіч, — то давялося выязджаць у Маскву на два дні раней: у аэрапорце мы разам з віцэ-спікерам Дзярждумы С. Бабурыным сустракалі югаславаў. Парламенцкую дэлегацыю ўзначальваў дэпутат віцэ-прэм'ер Сербіі Ваіслаў Шэшаль. Ужо адно гэта гаворыць, якое значэнне надаюць югаславы Парламенцкаму Сходу Саюза Беларусі і Расіі. Тым больш, што напярэдадні некаторыя сродкі масавай інфармацыі «падагрэлі» гэтую тэму, маўляў, югаславы хоць сёння гатовыя далучыцца да Саюза. Аднак і тады, калі мне давялося ў саставе дзяржаўнай дэлегацыі пабываць у Югаславіі, сустракацца на самым высокім узроўні, у тым ліку і з прэзідэнтам краіны Слабаданам Мілошавічам, ніхто напрамую не ставіў пытанне аб неадкладным далучэнні гэтай краіны да Саюза Беларусі і Расіі. І тым не менш яны накіравалі сваю прадстаўнічую дэлегацыю на гэты форум.

**— Як ужо паведамлялася ў друку, югаславы гатовы прымаць удзел у рабоце Парламецкага Сходу нашых дзяржаў у якасці назіральнікаў...**

— Гэта пытанне нават не ўключалася ў парадак работы Сходу. Адпаведна, яго ніхто не абмяркоўваў. А ўвогуле югаславы вельмі блізкія нам і па духу, і па эканамічнаму развіццю. У нас з імі нямала агульнага, як у гістарычным плане, так і ў поглядах на сучаснае развіццё еўрапейскіх народаў. Нас аб'ядноўвае агульная вера — хрысціянская. Дарэчы, у Югаславіі дзейнічаюць сотні праваслаўных храмаў. І ад фашызму яны напакуталіся гэтак жа, як і мы, беларусы. Як і ў Беларусі, у гады акупацыі там шырокі размах набыў партызанскі рух. Незабыўнай аказалася тая паездка ў Югаславію. Гэта якраз былі дні, калі рыхтаваўся ўдар натаўскіх «міратворцаў». Запомнілася, з якой радасцю сустрэлі югаславы рашучую заяву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Важна падкрэсліць, што далёка не ўсе кіраўнікі еўрапейскіх дзяржаў падтрымлівалі натаўцаў у іх спробе сілавога вырашэння югаслаўскай праблемы. Трэба было бачыць шчаслівыя твары братоў-славян, слёзы радасці на вачах людзей, каб зразумець важнасць гэтай заявы. Тады я яшчэ раз глыбока пераканаўся ў тым, што ў палітыцы трэба дзейнічаць адначасова цвёрда і гібка.

**— Вам, як палітыку, старшыні Камісіі па міжнародных пытаннях і бяспецы Савета Рэспублікі часта даводзіцца бываць за мяжой, выступаць на рознага роду палітычных форумах. Наколькі мне вядома, значны рэзананс атрымала ваша выступленне ў Будапешце. Крыху больш падрабязна пра тое, з чым было звязана тое ваша выступленне і якая была рэакцыя на яго?**

— Не так даўно ў сталіцы Венгрыі была праведзена свайго роду навуковая канферэнцыя, прысвечаная ролі НАТО ў Еўропе. Як водзіцца, у яе рабоце прынялі ўдзел прадстаўнікі амаль усіх еўрапейскіх краін. Не трэба нават акцэнтаваць увагу на тым, што арганізатары гэтай акцыі дужа хацелі паказаць міралюбівы твар Паўночна-Атлантычнага блока, прадэманстраваць, што ў гэтым саюзе ўсе роўныя.

У зале сабраліся ўдзельнікі канферэнцыі — прычым з еўрапейскіх краін, а ў прэзідыуме пасяджэння — выключна прадстаўнікі ЗША і НАТО. Яны і тут спрабавалі павярнуць работу форуму ў патрэбнае ім рэчышча. І як на грэх, сярод мноства вывешаных у фае агітацыйных матэрыялаў на карысць НАТО, аказалася карціна, датаваная 1963 годам. На ёй тысячы мышэй, што дружна маршыруюць услед за самай вялікай мышшу са сцягам, на якім намаляваны кот. Па задуме аўтара гэтага палатна, яно сімвалізавала ўсю агіднасць культу асобы. Не стрымаўся тады, напомніў прысутным пра тую карціну, якую яны ўсе бачылі, падкрэсліў, што яна сабой уяўляе. А заадно зазначыў: паглядзіце ў залу і на прэзідыум. Дык вось, давайце занясём карціну ў гэтую залу і павесім яе над прэзідыумам, толькі надпіс «1963 год» зменім на 1998-мы. Большасць зразумела падтэкст: пачуліся гучныя смяшкі, апладысменты. А ў прэзідыуме толькі скрывіліся ў адказ на маю рэпліку. Па ўсім бачна, іх гэта закранула за жывое.

**— Неяк на адной з сустрэч вы заявілі пра тое, што міжнародная супольнасць, у тым ліку ААН і НАТО празмерна захапляюцца сілавымі метадамі пры вырашэнні палітычных праблем. Нярэдка злоўжываюць, пасылаючы ў «гарачыя кропкі» войскі. Вы ж прапануеце так званы «корпус міру». Пажадана больш падрабязна расказаць пра гэта.**

— Паколькі мы гаворым, што Еўропа — наш адзіны дом, то і клапаціцца трэба, каб у ім панавалі мір, спакой і згода. На жаль, да гэтага яшчэ ой як далёка! То там, то тут успыхваюць канфлікты на міжнацыянальнай, міжрэлігійнай глебе. У выніку марна нішчацца матэрыяльныя каштоўнасці, бяднее народ, а галоўнае — гінуць людзі. Гэтыя страты ўжо нічым не кампенсуеш. Важна не дапусціць, каб канфлікт, выкліканы нейкімі непаразуменнямі на этнічнай глебе ці іншымі прычынамі, перарос у адкрытыя сутычкі, у тым ліку і ўзброенае процістаянне. Пажар, як вядома, лягчэй папярэдзіць, чым тушыць. Вось тут і спатрэбіўся б гэты самы «корпус міру», які трэба стварыць пры АБСЕ. Што ён, на маю думку, павінен сабой уяўляць? У яго саставе — вядомыя ў Еўропе вучоныя, юрысты, гісторыкі, медыкі, прадстаўнікі розных канфесій, якія сілай розуму, сваімі ведамі маглі б хутчэй знайсці дарогу да сэрцаў людзей, пераканаць, прымірыць іх, не даць канфлікту перарасці ў варожае процістаянне. Тым самым мы, еўрапейцы, не толькі зможам пасадзейнічаць у навядзенні парадку ў сваім доме, але і паказаць усяму цывілізаванаму свету перспектыву мірнага, а не ваеннага вырашэння канфліктаў.

**— Наколькі я зразумеў з размовы з вамі, наша мірная палітыка працягваецца. І якія вынікі яго?**

— У якіх толькі грахах нас не абвінавачвалі: і ў адсутнасці дэмакратыі, і ва ўціску правоў, развале эканомікі... І што ж? Жывем пакрысе, дабіваемся сусветнага прызнання. Мы першымі добраахвотна адмовіліся ад ядзернага ўзбраення і сродкаў яго даставкі. І з гэтым не можа не лічыцца сусветная супольнасць. Нас як роўных прынялі ў Міжпарламенцкі саюз. Нядаўна Беларусь наведалі прадстаўнікі кіраўніцтва Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якія дэталёва прааналізавалі ўнутрыпалітычнае становішча ў рэспубліцы. Там, спадзяюся, добра разумеюць, што Беларусь і Еўропа — непадзельнае цэлае. Самім лёсам нам наканавана жыць у адзіным еўрапейскім доме, разам клапаціцца аб яго дабрабыце і бяспецы. Да таго ж Беларусь была і застаецца ў ліку краін — стваральнікаў ААН. І гэта таксама трэба мець на ўвазе. Вядома, у Еўропе ёсць нядобразычліўцы ў адносінах да той сумленнай і адкрытай палітыкі, якую дэманструюць прэзідэнт і парламент рэспублікі. Але і колькасць нашых прыхільнікаў таксама расце. І гэта абнадзейвае.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

## ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА

***Іван Ігнатавіч БАСЕЦКІ, намеснік начальніка Акадэміі МУС па навуцы***

**1. Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— Калі шчыра, я выпісваў «Звязду» на працягу многіх гадоў, аднак апошнім часам, калі нумары газеты дзіўным чынам пачалі «знікаць» з паштовай скрынкі, вырашыў купляць яе кожную раніцу ў кіёсках «Саюздруку». І не шкадую. Чаму? Бо, па-першае, гэта наша адзіная беларускамоўная газета. А па-другое, на маю думку, менавіта «Звязда» менш за ўсё схільная да кан'юнктуры.

**— Што вам падабаецца ў газеце?**

— Заўсёды чытаю з цікавасцю публіцыстычныя і гістарычныя матэрыялы, а таксама «Анталогію беларускай паэзіі». Шкада, што зараз гэтая рубрыка на старонках газеты з'яўляецца ўсё радзей.

**— Што б вы хацелі пажадаць «Звяздзе» надалей?**

— Паўтаруся: удзяляйце больш увагі беларускай літаратуры і паэзіі, прычым як класічнай, так і сучаснай. Ведаеце, днямі набыў чарговы том факсімільнага выдання першай па-сапраўднаму беларускай газеты «Наша ніва» і міжволі злавіў сябе на думцы, што ў нечым гэта ўзор для ўсёй нашай прэсы, а тым больш для «Звязды». Бо «Звязда» — гэта «Наша ніва» сёння.

***ПАДРАБЯЗНАСЦІ***

# КРЭДЫТЫ ТРЭБА ВЯРТАЦЬ

***По фактах невяртання крэдытаў і крадзяжу грашовых сродкаў узбуджана 145 крымінальных спраў***

З актывізацыяй работы па вяртанню атрыманых крэдытаў з боку пракуратуры і МУС значна больш увагі да гэтай праблемы назіраецца і з боку банкаў. Новае кіраўніцтва Нацыянальнага банка, ААБ «Беларусбанк», разумеючы ўсю важнасць і адказнасць работы па вяртанню раней выдадзеных крэдытаў, павысілі патрабавальнасць да сваіх супрацоўнікаў, якія займаюцца гэтымі пытаннямі, палепшылі ўзаемадзеянне з праваахоўнымі органамі.

Аднак трэба будзе яшчэ вырашыць шэраг праблемных пытанняў па сумеснай дзейнасці банкаўскіх структур і праваахоўных органаў, а таксама прыняць усе прадугледжаныя законам меры па кампенсаванню нанесенага дзяржаве ўрону. Гэтыя і іншыя пытанні зноў сталі прадметам пільнага разгляду на калегіі пракуратуры рэспублікі, якая прайшла пад старшынствам Генеральнага пракурора Алега Бажэлкі і з удзелам прадстаўнікоў Нацыянальнага банка, ААБ «Беларусбанк», Адміністрацыі Прэзідэнта, судовых і праваахоўных органаў.

Па фактах невяртання крэдытаў і крадзяжу грашовых сродкаў пракуратурай і МУС было ўзбуджана 145 крымінальных спраў, з якіх у суды ўжо накіравана 50, а па іншых праводзяцца следчыя дзеянні.

Калегіяй адзначана, што яшчэ не выкаранены і факты валакіты пры праверцы матэрыялаў аб невяртанні фінансавых сродкаў банкаў з боку органаў унутраных спраў, маюць месца і факты несвоечасовага паведамлення банкамі звестак аб невяртанні крэдытаў следчым органам, што ў далейшым адмоўна адбіваецца на расследаванні крымінальных спраў і вяртанні атрыманых сум крэдытаў.

Ва ўпраўленні па барацьбе з эканамічный злачыннасцю УУС Мінгарвыканкама больш як 4 месяцы праводзілася праверка па заяве АКБ «Беларусбанк» аб невяртанні ТАА «БВА» 2 крэдытаў на 1 млн. долараў ЗША і 5 млн. марак ФРГ, выдадзеных у 1994—1997 гг., што садзейнічала страце значных доказаў.

Аналагічныя прыклады не адзінкавыя. Генеральны пракурор Алег Бажэлка на калегіі запатрабаваў ад падначаленых пракурораў належнага нагляду за расследаваннем крымінальных спраў па фактах невяртання і крадзяжу крэдытаў. Гэта работа ўзята Пракуратурай Рэспублікі на кантроль.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

# ІНФАРМАЦЫЯ аб адкрытых акцыянерных таварыствах, акцыі якіх прапануюцца грамадзянам для абмену на імянныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць» праз філіялы АСБ «Беларусбанк»

**У мэтах рэалізацыі законаў Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб імянных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь» Міндзяржмаёмасць зацвердзіла Пералік № 13 адкрытых акцыянерных таварыстваў, акцыі якіх прапануюцца для абмену на імянныя прыватызацыйныя чэкі «Маёмасць» грамадзянам Рэспублікі Беларусь праз установы АСБ «Беларусбанк». Абмен акцый будзе ажыццяўляцца з 15 снежня гэтага года ў адпаведнасці з дзеючымі нарматыўнымі дакументамі і рэгламентам правядзення работ па рэалізацыі належачых дзяржаве акцый адкрытых акцыянерных таварыстваў, створаных у працэсе прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці.**

| № п/п | Назва акцыянернага таварыства | Адрас, тэлефон | Дата выдання загада аб пераўтварэнні ў ААТ | Намінальны кошт 1 акцыі: у рублях | Намінальны кошт 1 акцыі: у чэках (чэк/акцыя) | Прапануецца для продажу грамадзянам акцый | Ліміт прыёму чэкаў у абмен на акцыі | Прадмет дзейнасці акцыянернага таварыства |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛАСЦЬ | | | | | |
| 1. | **Інвет, п. Бігосава** | 211640, п. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н, тэл. 2-85-35 | 30.10.93 | 1000 | 2/1 | 18973 | 37946 | Вытворчасць прадукцыі вытворча-тэхнічнага прызначэння для с/г і зоаветэрынарыі |
| 2. | **Багушэўскмэбля** | 211510, г/п Багушэўск, вул. Валадарскага, 23, тэл. 2-51-78 | 15.12.94 | 25000 | 10/1 | 2906 | 29060 | Вытворчасць мэблі і піламатэрыялаў |
| | | | ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛАСЦЬ | | | | | |
| 3. | **ГВГФ 8-е Сакавіка, г. Гомель** | 246708, г. Гомель, вул. Савецкая, 41, тэл. 52-41-01 | 31.12.96 | 35000 | 1/1 | 23722 | 23722 | Вытворчасць і рэалізацыя трыкатажных і панчошна-шкарпэткавых вырабаў |
| 4. | **Мазырдрэў** | 247760, г. Мазыр, вул. Сацыялістычная, 120, тэл. 3-60-80 | 28.03.97 | 35000 | 1/1 | 53232 | 53232 | Нарыхтоўка драўніны, вытворчасць пліты ДС, вытворчасць піламатэрыялаў, шпону струганага, мэблі, ТНС |
| | | | г. МІНСК | | | | | |
| 5. | **Беларускія шпалеры, г. Мінск** | 220004, г. Мінск, вул. Шпалерная, 12, тэл. 23-93-60 | 29.12.93 | 1493000 | 2/1 | 2338 | 4676 | Вытворчасць і рэалізацыя шпалер і іншай папяровай прадукцыі |
| | | | МІНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ | | | | | |
| 6. | **Аўтатрансбуд, г. Маладзечна** | 222310, г. Маладзечна, вул. Прафсаюзная, 2, тэл. 7-51-94 | 31.05.94 | 10000 | 4/1 | 7478 | 29912 | Ажыццяўленне аўтамабільных перавозак грузаў |
| 7. | **Маладзечнабудкамплект** | 222310, г. Маладзечна, вул. Элеватарная, 3, тэл. 7-29-16 | 26.07.94 | 10000 | 4/1 | 1443 | 5772 | Камплектацыя будаўнічых аб'ектаў матэрыяльнымі рэсурсамі |
| 8. | **Мінскае вытворчае гарбарнае аб'яднанне, пас. Гатава** | 223097, Мінскі р-н, п. Гатава, тэл. 36-83-44 | 30.11.94 | 10000 | 4/1 | 50000 | 200000 | Вытворчасць і рэалізацыя хромавых скур |
| 9. | **Белмасткераміка, г. п. Радашковічы** | 222322, Маладзечанскі р-н, п. Радашковічы, тэл. 9-51-71 | 29.12.94 | 25000 | 10/1 | 1079 | 10790 | Вытворчасць мастацкай і бытавой керамікі, мэблі |
| | | | МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ | | | | | |
| 10. | **АТЭК, г. Магілёў** | 212004, г. Магілёў, Чавуская шаша, 4, тэл. 42-17-57 | 30.12.93 | 10000 | 4/1 | 1943 | 7772 | Аказанне паслуг па перавозцы грузаў |
| 11. | **Спартак, г. Шклоў** | 213010, г. Шклоў, вул. Фабрычная, 26, тэл. 21-48-8 | 30.12.93 | 5000 | 2/1 | 28803 | 57606 | Выпускае і рэалізуе папяровую прадукцыю |

***Заўвага:***

**1.** Афармленне дакументаў для абмену чэкаў на акцыі праводзіцца ў раённых філіялах АСБ «Беларусбанк» па месцы жыхарства грамадзян:
- пры наяўнасці ліміту прыёма да 100 тыс. чэкаў — у горадзе, раёне па месцы знаходжання ААТ;
ад 100 да 200 тыс. чэкаў — па тэрыторыі вобласці (г. Мінска);
звыш 200 тыс. чэкаў — па ўсёй тэрыторыі рэспублікі.

**2.** Тэрмін абмену — з 15 снежня 1998 года па 15 чэрвеня 1999 года.

**3.** Для абмену на акцыі прыватызуемых прадпрыемстваў прымаюцца чэкі, налічаныя грамадзянам, атрыманыя ў спадчыну, а таксама пераафармленыя грамадзяніну ад блізкіх сваякоў (бацькоў, дзяцей, мужа ці жонкі, родных братоў і сясцёр, унукаў, бабуляў, дзядуляў, свякрові, свёкра, цесця і цешчы), але не больш 250 чэкаў сумарна на працягу ўсяго перыяду бясплатнай прыватызацыі.

*Філасофія з'явы*

# Міканор Іванавіч Босы і яго нашчадкі



«...И эту контрамарочку переводчик левой рукой ловко всучил Никанору Ивановичу, а правой вложил в другую руку председателя толстую хрустнувшую пачку. Метнув на нее взгляд, Никанор Иванович густо покраснел и стал ее отпихивать от себя.

— Этого не полагается... — бормотал он.

— И слушать не стану, — зашептал в самое ухо его Коровьев, — у нас не полагается, а у иностранцев полагается. Вы его обидите, Никанор Иванович, а это неудобно. Вы трудились...

— Строго преследуется, — тихо-претихо прошептал председатель и оглянулся.

— А где же свидетели? — шепнул в другое ухо Коровьев. — я вас спрашиваю, где они? Что вы?»

Вы, канешне, прыгадалі? Што?! Вы не чыталі «Майстра і Маргарыту»?! Ну, гэта не бяда. Уявіце сабе проста наш час ва ўсіх фарбах і падрабязнасцях. Вось. У рамане пра тое ж самае, але гадоў на шэсцьдзесят раней. Тады Маскву наведаў прафесар Валанд, ён жа — д'ябал, і што з гэтага было.

Міканор Іванавіч Босы — старшыня жылтаварыства дома № 302-біс па вуліцы Садовай. Мы яго засталі ў пікантны момант атрымання хабару. І гэта зусім не выпадкова, бо давайце пагаворым пра хабар у нашым жыцці. Так бы мовіць, з філасофскага пункту гледжання.

### Дадатковая аплата

Уявіце самую звычайную раённую паліклініку. Вось масажны кабінет. Сюды сядзіць чарга. Пры бліжэйшым разглядзе вы заўважаеце, што ў кожнага другога на каленях каробка з тортам, у кожнага першага — пакет, у якім угадваецца таксама каробка — трэба думаць, з цукеркамі.

Адзін за адным грамадзяне знікаюць у кабінеце. Праз нейкі час яны паяўляюцца. Але чамусьці ўжо без каробак. Трэба меркаваць, каробкі застаюцца ў кабінеце...

А вось спытаць гэтых грамадзян: ці разумееце вы, паважаныя, што ўчынілі крымінальнае злачынства, якое называецца «дача хабару»? А гаспадыня кабінета таксама ўчыніла злачынства, якое называецца «атрыманне хабару»? Хаця, думаю, пытаць грамадзян лепш не трэба — шкодна для здароўя. Таму што яны вельмі абурацца і за хвіліну дакажуць вам, што ніякі гэта не хабар, а проста падарунак, падзяка за выдатную працу і проста па-сяброўску. Самыя ж гарачыя абкладуць вас апошнімі словамі, самыя эмацыянальныя могуць элементарна зламаць сківіцу альбо нос.

Ды вы і самі разумееце, што: 1) у масажысткі маленькая зарплата, а праца фізічная, цяжкая; 2) што прыватны масажыст здзярэ з вас за сеанс не менш за 10 долараў, а тут, лічы, бясплатна; 3) што масажыстка можа «папрацаваць» з вамі старанна, а можа так сабе. Таму лепш не ўнікаць у юрыдычныя тонкасці, а купіць торцік, ці цукеркі, ці яшчэ якую карысную рэч. І вас добра адмасажыруюць, і стане вам хораша-хораша.

Дзіўна мне ва ўсім гэтым толькі адно: адны і тыя ж грамадзяне патрабуюць захаваць бясплатную медыцыну і без роздуму, як само сабою зразумелае, нясуць свае сціплыя «прэзенты» ўрачу, медсястры, загадчыку аддзялення і г. д. Як звязаць гэтыя два факты?

### Адна даўняя справа

Гады тры-чатыры таму мне прыйшлося разбірацца ў адной даволі заблытанай справе. Групу маладых людзей абвінавацілі ў арганізацыі злачыннай групоўкі. Мафія, адным словам, рэкет і «коза ностра». Зразумела, што маладых людзей хуценька пасадзілі ў следчы ізалятар.

Цікава тут мне не гэта. А тое, што яшчэ падчас следства следчы намякнуў жонцы аднаго з падазраваемых, што нядрэнна б заплаціць «за работу». У сэнсе, следчы растлумачыў, што справа па сутнасці сфабрыкаваная, але, каб даць «задні ход», трэба яго, следчага, «заахвоціць». На шчасце жанчыны, у горадзе працавала праверка з МУС РБ і... следчы апынуўся ў суседняй з падследным камеры.

Дзесьці год таму ўсіх удзельнікаў «злачыннай групоўкі» ціхаціха вызвалілі за адсутнасцю саставу злачынства. Пасля гэтых прыгод у іх засталіся непрыемныя ўспаміны і па букету хранічных хвароб. І, я думаю, ім яшчэ пашанцавала. Бо іншыя ў падобных выпадках адпраўляюцца ў калоніі...

Але ацаніце, якая прастора для дзейнасці пэўнага роду!

Раскажыце любому грамадзяніну, што вас хацелі пасадзіць, але вы заплацілі каму трэба і — на волі. Ён вас зразумее нават без слоў, па аднаму намёку, быццам толькі так і трэба. Цяпер другому грамадзяніну раскажыце, што вас хацелі пасадзіць, ды следчы, малайчына, карпатліва даказаў, што вы — невінаваты. Грамадзянін моцна здзівіцца, шырока раскрые вочы, у рэшце рэшт пойдзе, усё роўна думаючы: «Ага, расказвай... Відаць, добра многа даў на лапу...»

І дзесьці грамадзянін будзе мець рацыю. Бо ёсць такія, што бяруць.

Цяпер уявім нейкую сталічную фірму, якая нешта купляе і прадае. Для паспяховай дзейнасці фірме неабходна аператыўна праводзіць пэўныя праверкі па розных канторах, хутка атрымліваць дакументы і розныя даведкі. Інакш «тавар» перахопяць канкурэнты, і фірма не будзе мець камісійных.

Руцінную работу вядуць радавыя агенты фірмы. Але наступае такі этап, калі іх магчымасцяў не хапае. Тут дзейнічаюць кіраўнікі. У іх ёсць знаёмыя ў пэўных дзяржаўных структурах. Адбываецца «асабісты кантакт» — і фірма мае тое, што хоча. А знаёмыя? Яны таксама маюць. Артыкул расходаў называецца «ўзнагароджанне за камерцыйную паслугу».

Зноў карціць спытаць: каго гэта здзіўляе, бянтэжыць, абурае, прымушае, прыгожа кажучы, біць ва ўсе званы? Так прынята, скажуць вам, не мы такія правілы ўстанавілі, не нам іх мяняць. Усе так жывуць, усе так робяць — дададуць.

А калі ўсе пажадаюць скочыць з дзесятага паверха, вы таксама скочыце, ці ўсё ж падумаеце?

### Пра школу і «двойкі»

Раптам у вашага дзіцяці ў дзённіку пачынаюць з'яўляцца «двойкі», адна за адной, ды па аднаму і таму ж прадмету. Вы праводзіце «выхаваўчую» работу: прымяняеце рэмень, забараняеце тэлевізар, сілай усаджваеце яго за падручнік. Нічога не дапамагае: «двойкі» працягваюць узнікаць з пужаючай рэгулярнасцю.

Вы ў адчаі. Вы пачынаеце дапытваць дзіця. І яно вам ахвотна дакладвае: настаўніца вечна злая, ёй мала плацяць, на кожным занятку яна расказвае класу ва ўсіх падрабязнасцях пра сваё цяжкае жыццё.

Вы пачынаеце «ўязджаць у сітуацыю». І робіце адзіна правільную выснову: трэба тэрмінова наведаць настаўніцу. І не з пустымі рукамі. Вы ж не вораг свайму дзіцяці? Наведваеце. Гутарыце з настаўніцай, гаворыце «за жыццё», што «Саша (Пеця, Маша) у мяне такі (-ая) сарамлівы (-ая), вы ўжо дапамажыце». І хуценька аддаяце пакет. І «двойкі» цудоўным чынам знікаюць, і дзіця радаснае, і ў вас на душы спакойна і хораша-хораша. І вы думаеце: такі час — за ўсё трэба плаціць.

І дзесьці вы, безумоўна, маеце рацыю...

### Заключнае слова

Думаю, калі нас перасяліць у Антарктыду, то ўжо праз тыдзень пінгвіны пачнуць лаяцца матам, прычым выключна на «трасянцы», піць гарэлку і даваць адзін аднаму хабар рыбай за лепшае месца для выседжвання яек.

Мы непапраўныя. Гульня прыроды, выключны выпадак у гісторыі чалавецтва. Небяспечная анамалія.

Калі пачалася так званая «трэцяя хваля» эміграцыі з СССР, былыя адэсіты, масквічы, ленінградцы, гамяльчане чамусьці актыўна засялілі раён Брайтан-Біч у Нью-Йорку. Наступствы гэтай катастрофы сталі бачныя ў хуткім часе.

Былыя савецкія, калі іх спыняў дарожны паліцэйскі, спрабавалі даць таму хабар. Замест таго, каб проста заплаціць штраф. Амерыканцы гэтага зразумець не маглі. Мы, я спадзяюся, разумеем?

Чаму ў Амерыцы вось такі бытавы, штодзённы хабар — рэч непрымальная, а ў нас яе апраўдае і растлумачыць любы і кожны? Чаму калі я выклікаў сантэхніка, то зараней рыхтую пэўную суму і баюся толькі аднаго: каб не было мала? Верагодна, усё залежыць ад умоў існавання.

Мы прымушаны (і нас прывучылі) чакаць. Зарплаты, пенсіі, судовага рашэння, калі завязуць яйкі, калі адрамантуюць чаравікі, калі прыйдзе чарга ставіць штучныя зубы ці вызваліцца месца ў бальніцы, каб туды легчы і, нарэшце, памерці.

Хабар — ёсць наш адказ на жудасныя ўмовы жыцця. Вы жадаеце хутчэй і лепш? Плаціце. У астатнім свеце наш прывычны хабар уваходзіць у афіцыйны кошт паслугі — эканоміка ёсць эканоміка. У нас працэс аплаты падзелены на некалькі этапаў. Кожны этап — гэта адзін ці некалькі чалавек, якія глядзяць на вас прагнымі вачамі.

Выбару па сутнасці няма, паколькі няма грошай, каб звярнуцца не да дзяржавы, а да прыватніка. Ён, канешне, зробіць якасна і хутка, але вы рызыкуеце значна аблегчыць сямейны бюджэт. Значыць, застаецца адно выйсце: крыху пераплачваць заспанай, з пахмелля, у драным халаце асобе, якая называецца... А якая розніца, як яна называецца?

Ясна толькі, што гэта асоба вас, мякка кажучы, не любіць. А паколькі яна прадстаўляе дзяржаву, то выходзіць, не любіць вас дзяржава. Ну што ж, мы самі яе такую пабудавалі. А потым пачалі прыстасоўваць да нармальнага жыцця. У апошнія гады нам прапанавалі іншы варыянт суіснавання з дзяржаўнай машынай. Але нам не спадабалася...

Так што не трэба зараз рабіць вялікія вочы...

### Апошняе слова Міканора Іванавіча

«— Доллары в вентиляции, — задумчиво сказал первый и спросил Никанора Ивановича мягко и вежливо: — Ваш пакетик?

— Нет! — ответил Никанор Иванович страшным голосом. — Враги подбросили!

— Это бывает, — согласился тот, первый, и опять-таки мягко добавил: — Ну что же, надо остальные сдавать.

— Нету у меня! Нету, Богом клянусь, никогда в руках не держал! — отчаянно вскричал председатель...»

І гэта былі сапраўды апошнія словы Міканора Іванавіча Босага. Забралі яго органы.

«Атрыманне хабару — небяспечнае службовае злачынства... Грамадская небяспека гэтага злачынства заключаецца ў тым, што службовая асоба, атрымліваючы хабар, падпарадкоўвае агульнадзяржаўныя інтарэсы сваім асабістым, перарабляе сваю службовую дзейнасць у крыніцу асабістага ўзбагачэння і падрывае аўтарытэт дзяржаўнага органа ці грамадскай арганізацыі, у якой яна працуе» (Юрыдычны даведнік для насельніцтва).

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 556

## Аб унясенні дапаўненняў ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 жніўня 1996 г. № 292

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 жніўня 1996 г. № 292 «Аб прадастаўленні юрыдычным асобам адтэрміноўкі па выплаце запазычанасці па падатках і пені» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 23, арт. 566) наступныя дапаўненні:

1.1. дапоўніць пункт 2 часткамі наступнага зместу: «Устанавіць, што невыкананне гэтай забароны з'яўляецца грубым парушэннем працоўных абавязкаў кіраўніком, галоўным бухгалтарам (іх намеснікамі) юрыдычнай асобы.

У кантрактах, што заключаюцца з кіраўнікамі юрыдычных асоб, наймальнік абавязаны прадугледжваць персанальную адказнасць кіраўніка за парушэнне забароны, устаноўленай часткай першай гэтага пункта, уключаючы скасаванне наймальнікам кантракта да заканчэння тэрміну яго дзеяння»;

1.2. дапоўніць Указ пунктам 2 Прым.1 наступнага зместу:

«2 Прым.1. Налічэнне і выплата ўсіх відаў прэмій кіраўнікам і галоўным спецыялістам (іх намеснікам) юрыдычных асоб пры наяўнасці запазычанасці па плацяжах у бюджэт —

цягне накладанне штрафу на кіраўніка, галоўнага бухгалтара (іх намеснікаў) юрыдычнай асобы ў памеры да 100 мінімальных заработных плат.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання за такое ж правапарушэнне, —

цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад 100 да 200 мінімальных заработных плат.

Заключэнне з кіраўніком юрыдычнай асобы кантракта, які не адпавядае частцы трэцяй пункта 2 гэтага Указа, або непрыцягненне кіраўніка, галоўнага бухгалтара (іх намеснікаў) юрыдычнай асобы да дысцыплінарнай адказнасці за парушэнне патрабаванняў гэтага Указа —

цягне накладанне штрафу на ўпаўнаважаных службовых асоб наймальніка ў памеры да 100 мінімальных заработных плат.

Пратаколы аб учыненні адміністрацыйных правапарушэнняў, прадугледжаных гэтым пунктам, складаюцца ўпаўнаважанымі на тое службовымі асобамі органаў Міністэрства фінансаў і Дзяржаўнага падатковага камітэта, а правапарушэнняў, прадугледжаных часткай трэцяй гэтага пункта, — таксама органаў Камітэта па інспекцыі працы пры Міністэрстве працы.

Права разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных гэтым пунктам, прадастаўляецца раённаму (гарадскому) суду».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняць меры, неабходныя для рэалізацыі палажэнняў гэтага Указа.

3. Наймальнікам да 1 студзеня 1999 г. прывесці кантракты, заключаныя з кіраўнікамі юрыдычных асоб, у адпаведнасць з пунктам 2 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 13 жніўня 1996 г. № 292 у рэдакцыі гэтага Указа.

4. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
А.ЛУКАШЭНКА.**

*20 лістапада 1998 г., г.Мінск.*

## ПАКАЖЫЦЕ ВАШЫ ГРОШЫКІ!

**З 1 студзеня наступнага года Рэспубліка Польшча ўводзіць новыя правілы ўезду ў краіну для замежных гасцей. Галоўная асаблівасць заключаецца ў неабходнасці наяўнасці ў асоб, якія перасякаюць мяжу, грашовых сродкаў, неабходных для пражывання і вяртання, ці адпаведных дакументаў.**

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Пасольстве Рэспублікі Польшча ў Мінску консул Вальдэмар Мэнджалеўскі, распараджэннем міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі краіны ўстаноўлены канкрэтныя памеры сродкаў. Для ўезду на тэрыторыю Польшчы асоб ва ўзросце старэй за 16 гадоў ім неабходна будзе мець пры сабе 100 злотых на кожны дзень знаходжання, але не меней чым 500 злотых. Для дзяцей гэтыя лічбы роўныя адпаведна 50 і 300 злотым. Калі ж чалавек едзе на тэрмін да трох дзён, то павінен мець не менш як 300 злотых для дарослых і 150 — для дзяцей.

Суму ў пяць разоў меншую за звычайную, гэта значыць па 20 злотых на кожны дзень знаходжання, але не менш за 100, павінны мець турысты, удзельнікі маладзёжных лагераў, спартыўных спаборніцтваў, а таксама асобы, якія маюць аплачанае знаходжанне ў Польшчы, асобы, якія прыязджаюць ў лячэбна-санаторныя ўстановы. Па патрабаванню супрацоўнікаў пагранічнай аховы, павінны будуць прадстаўляць звесткі аб грашовых сродках і тыя грамадзяне, якія перасякаюць Польшчу транзітам. Для гэтых катэгорый мінімальныя сумы ўстаноўлены ў памеры 200 злотых для дарослых і 100 злотых — для дзяцей.

Грашовыя сродкі не абавязкова павінны быць у злотых. Дапускаецца любая замежная валюта, якую можна легальна абмяняць у рэспубліцы. Трапіць у Польшчу можна і без грошай, але пры наяўнасці дакументаў, якія б пацвярджалі магчымасць атрымання ў Польшчы грашовых сродкаў.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**



*Дарога ў вёску Ідолта Міёрскага раёна: а назад вярнулася зімой.*

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

*РАДАВОД*

## МЫ АДНАГО РОДУ — ТЫ І Я

**Днямі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшло незвычайнае мерапрыемства, падобных якому пакуль не было ў найноўшай гісторыі. Па ініцыятыве пісьменніка Уладзіміра Ліпскага і пры падтрымцы Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводству, Нацыянальнага гістарычнага архіва тут былі наладжаны першыя генеалагічныя чытанні, у цэнтры ўвагі якіх была гісторыя роду Ліпскіх.**

Каля сотні чалавек, аб'яднаных адзіным прозвішчам і агульнымі радаводнымі каранямі, але ў большасці сваёй да гэтага незнаёмыя паміж сабой, сабраліся ў Мінску. У беларускую сталіцу з'ехаліся Ліпскія не толькі з усіх куткоў краіны, але і з Расіі. Для многіх удзельнікаў генеалагічныя звесткі сталі нечаканым адкрыццём і адным з надзвычай моцных узрушэнняў. А прадстаўнікі іншых радоў, якія прысутнічалі на гэтым унікальным мерапрыемстве, не хавалі, што шчыра зайздросцяць Ліпскім.

У. Ліпскі назваў чытанні першымі, падкрэсліваючы, што за імі будуць і другія, трэція... Як вядома, ён адшукаў карані цёзак па прозвішчу і, магчыма, далёкіх сваякоў не толькі ў Беларусі, але і ў Польшчы, Расіі, Літве, Германіі, Аўстраліі, Канадзе, ЗША, у іншых краінах. Цяпер у пісьменніка новая мэта: зрабіць наступны з'езд яшчэ больш прадстаўнічым.

Але генеалагічныя чытанні не сталі толькі сваяцкай сустрэчай людзей аднаго роду, яны насілі больш шырокі характар, былі ў нейкім сэнсе нават паказальнымі. Сам У. Ліпскі неаднаразова падкрэсліваў, што спадзяецца на з'яўленне паслядоўнікаў. «Я плюс я — сям'я, сям'я плюс сям'я — род, род плюс род — народ, народ плюс народ — людзі Зямлі. Такія словы ёсць у маёй кнізе, — кажа аўтар. — Таму ўсе людзі на свеце — радня. І калі мы будзем уздымаць такія тэмы, калі будзем іх даследаваць, то ўбачым, як шмат у нас агульнага. Мы зблізім людзей, змацуем нацыю. Можа, гэтая ідэя і стане тым агульным, вакол чаго аб'ядналюцца беларусы».

Старшыня Дзяржкамітэта па архівах і справаводству і сустаршыня Беларускага генеалагічнага таварыства Аляксандр Міхальчанка абверг распаўсюджаны стэрэатып, нібыта дакументы ў архівах захаваліся толькі на шляхту, на дваран. «Любому чалавеку можна пачынаць пошукі інфармацыі ў архівах, нават тым, чые продкі былі з ніжэйшага саслоўя», — заўважыў ён.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ВАША ЗДАРОЎЕ

# А-а-а-пчхі!



**Звычайна прастуда пачынаецца менавіта з чхання. Потым закладвае нос, пачынае пяршыць у горле, душыць кашаль. Гэта ў лепшым выпадку. А ў найгоршым прывязваецца ангіна ці ўжо звычайная сезонная з'ява — грып. Усе лечацца па-рознаму. Большасць п'юць таблеткі. Гэта хаця і прасцей, затое шкодна для арганізма. Мы ж раім вам скарыстаць народныя спосабы лячэння.**

**НАСМАРК**

■ Калі насмарк толькі-толькі пачынаецца, прылажыце да пятак **гарчычнікі і надзеньце на ногі шарсцяныя шкарпэткі на 1-2 гадзіны.** Потым гарчычнікі дастаньце са шкарпэтак, хутка пахадзіце 5—10 хвілін.

■ Добрым сродкам лічыцца **сок свежага ліста каланхоэ**. Папераменна змазвайце ім слізістую носа і закапвайце па 3—5 кропель 3 разы на дзень.

■ Таксама дапаможа **часнок**, калі з'ядаць па 1 зубку раніцай, удзень і ўвечары.

■ Часнок растаўчыце, намачыце ватныя тампончыкі сокам і ўлажыце ў кожную ноздру. Калі будзе пячы, папярэдне ўватрыце ў слізістую вазелін.

■ **Сок цыбулі** або **кашка з яе** таксама добры сродак. Сок закапайце ў нос, а з кашкі зрабіце тампоны.

■ Калі да двух трацей **свежага соку бурака дабавіць** адну **трэць мёду**, атрымаецца выдатнае лякарства ад насмарку.

**КАШАЛЬ**

■ Дробна нарэжце дзве **сярэдняга памеру** цыбуліны і адварыце іх у адной шклянцы малака. Затым 4 гадзіны настойвайце, працадзіце. Прымайце праз кожныя 3 гадзіны па 1 ст. лыжцы.

■ Гэты сродак вылечыць **самы цяжкі кашаль**. Змяшайце 0,5 кг нацёртай на тарцы цыбулі, 50 г мёду і 400 г цукру. Варыце, часта памешваючы, у 1 л вады 3 гадзіны. Сумесь прымайце па 6 ст. лыжак на дзень.

■ **Састарэлым людзям дапаможа наступная сумесь**: 20 г масла, па 200 г свінога сала і мёду, 300 г парашку какавы і 15 яечных жаўткоў. Сумесь варыце на слабым агні 10 хвілін. Астудзіце і дабаўляйце па 1 ч лыжцы на 1/3 шклянкі гарачага малака. Піце павольна, невялікімі глыткамі 3 разы на дзень.

■ Змяшайце ў роўных прапорцыях **сок морквы з мёдам** і піце па 1-2 ст лыжкі 2-3 разы на дзень.

■ Зрабіце адвар з **ягад каліны з мёдам** у прапорцыі 1:2. Піце па 1-2 ст. лыжкі 4-5 разоў на дзень, запіваючы цёплай вадой.

**АНГІНА**

■ Калі ангіна ў вас толькі пачынаецца, павольна разжуйце і праглыніце **паўлімона з цэдрай**. Затым гадзіну нічога не ешце. Праз 3 гадзіны лячэнне паўтарыце.

■ Добра дапамагае сумесь з **мёду з кашкай з яблыкаў і цыбулі.** Прымайце 3 разы на дзень па 2-3 ч лыжкі.

■ Можна скарыстаць **сок буракоў.** У шклянку соку ўліце 1 ст. лыжку воцату. Палашчыце гэтым растворам горла 5-6 разоў на дзень.

# Ячмень не ў радасць

Калі ў вас пачынае свярбець і балець павека, а край яго пачырванеў — гэта першыя прыметы запалення тлушчавай залозы, або, прасцей кажучы, — ячмень. Лячыць яго можна пры дапамозе цёплых кампрэсаў, капель і мазі, у саставе якіх ёсць антыбіётыкі, але не забывайце і пра бабуліны рэцэпты. Патрыце ячмень залатым пярсцёркам — іоны высакародных металаў валодаюць уласцівасцю знішчаць бактэрыі.

-1414-

## ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ

# Гатуем гарніры

**Толькі свежасці і каларыйнасці прадуктаў недастаткова. Важна правільна іх спалучаць. Адны спалучэнні засвойваюцца добра і хутка, другія — горш.**



Які гарнір выбраць да мяса? Аказваецца, наш густ не заўсёды лепшы дарадчык. Карысней за ўсё есці мяса з гарнірам з агародніны: арганізм у гэтым выпадку засвойвае 80—85 працэнтаў пратэінаў. Калі ж мы ядзім мяса з локшынай або з кашай, то засвойваецца ўсяго 70—75 працэнтаў пратэінаў. Неабходна ўлічваць і тое, што агародніна ўтрымлівае вялікую колькасць вітамінаў і мінеральных соляў.

Смажанае мяса лепш падаваць з зялёнай салатай, памідорамі, тушанай морквай. Гусінае і качынае мяса — з тушанай капустай, грэцкай кашай, печанымі яблыкамі. З баранінай добра спалучаецца фасоля ў таматным соусе з часнаком. Цяляціна і трус добрыя з макаронай, ялавічына — з пюрэ з бульбы або іншай агародніны, з тушанай морквай пад соусам з хрэну са смятанай.

Смажаную рыбу перад падачай на стол паліце топленым маслам, можна злёгку апырскаць лімонным сокам або пасыпаць тоўчаным часнаком. Гарніруйце рыбу адваранай або смажанай бульбай.

Морква вельмі багатая на карацін, з якога ўтвараецца вітамін А. Вітамін А добра раствараецца ў тлушчах, таму арганізм лёгка засвойвае любую страву з морквы, прыгатаваную на алеі, масле або імі прыпраўленую.

Смажаную курыцу і катлеты рэкамендуецца падаваць з адваранай або тушанай морквай (пад соусам). Вараная курыца і бараніна добра спалучаюцца з адвараным рассыпістым рысам або бульбяным пюрэ. Да каўбасы, сасісак, сардэлек можна падаваць тушаную капусту і бульбянае пюрэ.

**Трэба памятаць: калі страва тлустая, то гарнір да яе лепш прыгатаваць кіслы; калі ж посная, то гарнір павінен быць больш насычаным і каларыйным.**

# Сушым... моркву

Моркву абскрэбці, памыць і нацерці на буйнай тарцы. Асцярожна лыжкай разлажыць на плоскія кардонкі, напрыклад, з-пад цукерак, стараючыся пры гэтым не дакранацца да морквы рукамі, інакш яна дасць сок. Сушыць моркву пры пакаёвай тэмпературы некалькі дзён, час ад часу перамешваючы.

Сушаная морква — выдатная прыправа да першых страў, асабліва калі пад рукой няма сырой.

## АЎТАМАБІЛЬНЫЯ КЛОПАТЫ

# Дапаможа гумавы мячык

Каб засцерагчы свой аўтамабіль ад усялякіх пашкоджанняў пры ўездзе ў невялікі гараж, павесьце ўнутры гаража маленькі гумавы мячык такім чынам, каб ён пры поўным уездзе даткнуўся да ветравога шкла. Гэты дотык і абазначыць дакладнае месца паркоўкі. У выніку чаго машына не ўдарыцца аб сцяну радыятарам, а яе кузаў не будзе перашкаджаць закрыванню дзвярэй гаража. З гэтай жа мэтай уздоўж тарцовай сцяны гаража пачынаючыя аўтамабілісты могуць устанавіць некалькі старых пакрышак.

Калі ў вас гараж вузкі, прымацуйце ўздоўж сцен на ўзроўні дзвярэй машыны белыя палоскі губчатай рызіны. Гэта засцеражэ кузаў і дзверы аўтамабіля ад драпінаў.

-1415-

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

# ВАДАЛЕЙ АТРЫМАЕ ПАВЫШЭННЕ ПА СЛУЖБЕ, А ЦЯЛЬЦОЎ ЧАКАЮЦЬ ПАДАРОЖЖЫ

**Індыйскі астролаг Джагджыт Упал раіць**

КАЗЯРОГУ пакінуць на час клопаты аб бізнесе і поўнасцю прысвяціць сябе зносінам з блізкімі. Шукайце новых сяброў і карысныя сувязі ў грамадстве, якія хутка спатрэбяцца вам для выканання будучых задум. Адна з сустрэч абяцае вам знаёмства з чалавекам, адносіны з якім вельмі хутка будуць значыць вельмі многа.

ВАДАЛЕЙ атрымае павышэнне па службе і шанц стварыць каманду аднадумцаў. Бізнесменам трэба заняцца аддзелкай новага офіса і зборамі ў дзелавое падарожжа. Хоць усе дарогі і вядуць у Рым, аднак вам трэба адправіцца на Усход і знайсці там надзейных партнёраў у бізнесе, што раўназначна скарбам. Работнікі пяра пачнуць журналісцкае расследаванне, вынікі якога абрадуюць зусім не ўсіх.

РЫБЫ марудна, але аддана будуць вырашаць свае фінансавыя праблемы, якіх у вас гаць гаці. Паспешлівасць наогул проціпаказана вам на гэтым тыдні. Рухайцеся асцярожна, як тыгр на паляванні, але ступайце ўпэўнена, як слон. Пасля нечаканай адстаўкі начальніка вас назначаць на яго месца. У ваенных з'явяцца праблемы на службе, а работнікі дзяржпрадпрыемстваў будуць вымушаны шукаць новую работу.

АВЕНАМ планеты абяцаюць шмат работы, справіцца з якой можна будзе толькі адмовіўшыся ад усіх астатніх спраў. Бізнесменам прыйдзецца пайсці на дадатковыя інвестыцыі дзеля паспяховага выканання важнага праекта. Не бойцеся пры гэтым выйсці за рамкі бюджэту — астролаг гарантуе акупнасць усіх расходаў. Прыбаўленне ў сям'і чакае нядаўна ўступіўшых у шлюб. А тым, хто марыць аб вузах Гіменея, планеты раяць не губляць час дарэмна.

У ЦЯЛЬЦОЎ наперадзе вялікія затраты на падарожжы і прыём гасцей. Аднак у вас не будзе фінансавых праблем дзякуючы ўдаламу завяршэнню важнага дзелавога праекта. Сустрэча з урадавым чыноўнікам дапаможа руху бізнесу і атрыманню важных заказаў. Планеты гарантуюць рост прэстыжу ў дзелавых колах, чаму паслужыць ваша ўпартая праца і поспехі ў камерцыйных справах.

БЛІЗНЯТЫ адчуюць супакаенне ад наступлення маладзіка. Адыдуць у мінулае вашы трывогі, але замест мінулых клопатаў з'явяцца новыя. У вас наперадзе падпісанне важных дакументаў, перагляд пагадненняў з партнёрамі і пачатак праекта, які гарантуе добрыя даходы ў самы бліжэйшы час. Поспех чакае фінансістаў, уладальнікаў рэстаранаў і куцюр'е.

РАК скарыстае дапамогу Месяца і Юпітэра, якія нададуць больш энергіі, такой неабходнай для дасягнення поспеху ў бізнесе і ўдачы ў асабістых справах. Падтрымка планет дапаможа памяняць накіраванне ў кар'еры, падпісаць важны кантракт, вырашыць праблемы, якія даўно вам не давалі спакою. Ваш фінансавы стан яшчэ больш умацуецца, здароўе не падвядзе, а канец тыдня абяцае мора задавальнення.

ІЛЬВЫ дасягнуць уражальных вынікаў у бізнесе, перспектывы якога акажуцца цудоўнымі. Тыдзень стане асабліва паспяховым для творчых натур, здольных ствараць цудоўнае. Некаторыя атрымаюць важнае заданне, для выканання якога прыйдзецца рухацца на поўнач. Вы апынецеся ў цэнтры ўвагі прадстаўнікоў процілеглага полу, аднаму з якіх трэба звяяваць ваша сэрца.

ДЗЕВА атрымае назначэнне на высокую пасаду або ўзначаліць выкананне адказнага задання. Не выключана, што гэта прымусіць вас адправіцца ў замежную паездку. Планеты дабратворна паўплываюць на ваш душэўны стан, дабавіўшы ўпэўненасці, спакою і цярпення.

ШАЛІ могуць спадзявацца на дапамогу Месяца, які пракладзе вам шлях да фінансавага поспеху. Гэта планета будзе дапамагаць вам увесь тыдзень і дасць магчымасць выгадна ўкласці грошы. Бізнесменам не варта спяшацца з выкананнем новых планаў, у якія ўсё роўна прыйдзецца ўносіць карэктывы. Маладыя могуць рыхтавацца да цікавага падарожжа, а чыноўнікі — да замежнай стажыроўкі.

СКАРПІЁНЫ будуць знаходзіцца пад уплывам Венеры і Месяца, камбінацыя якіх будзе спадарожнічаць вашай удачы. Звольненыя з дзяржслужбы знойдуць добрае месца ў прыватным бізнесе. Планеты дадуць магчымасць для ўступлення ў прэстыжны клуб і знойдуць партнёра для рамантычных прыгод. Юныя Скарпіёны з дапамогай сяброў паедуць вучыцца за мяжу. Вы знойдзеце настаўніка, які здзівіць мудрасцю і ведамі.

СТРАЛЬЦЫ павінны будуць з вялікай увагай аднесціся да спраў, у якіх магчыма паяўленне праблем з-за памылак калег. Не ўрывайцеся ў сферы, дзе вас падвядуць нявопытнасць і адсутнасць ведаў. Хуткія аперацыі на рынку дапамогуць расці даходам камерсантаў і пасрэднікаў. Стральцы на дзяржслужбе могуць сапсаваць адносіны з начальствам, і гэта створыць рызыку для вашай кар'еры. Хатняе свята ў канцы тыдня дапаможа палепшыць адносіны з роднымі.

**Леанід КОТАЎ,**
**кар. ІТАР-ТАСС.**

*г. Дэлі.*

## ПАРАДЫ БЫВАЛЫХ

# Ведаць бы, дзе ўпадзеш...

**Вось і скончыўся дачны сезон — вы вяртаецеся ў горад, пакінуўшы свой садовы домік... на разрабаванне мясцовым хуліганам і бамжам.**

Што ж рабіць? Па-першае, **прыміце меры да памяншэння магчымага ўрону.** Тэлевізар, напрыклад, лепш перавезці ў горад, тым больш, што радыёапаратура, перазімаваўшая ў доме, які не ацяпляецца, можа сапсавацца. Веласіпед можна проста разукамплектаваць: раму закінуць на гарышча, а калёсы — у падвал або забраць у горад. Посуд, электраплітку лепш за ўсё аддаць на зімоўку знаёмай бабулі з бліжэйшай вёскі. Урэшце, гэтыя меры толькі паменшаць страты, але не засцерагуць ваш дом ад узлому і апаганення.

**Каб засцерагчы само жыллё, неабходна перш за ўсё ўмацаваць дзверы.**

**Першае**. Дзверы павінны быць суцэльныя дашчаныя або філянговыя, але ні ў якім разе не «кардонныя», якія ўстанаўліваюцца ўнутры нашых гарадскіх кватэр.

**Другое**. Настойліва раім абабіць дзверы знутры жалезам. Нават звычайная бляха ўскладніць дзеянні зламысніка, а ліставое жалеза таўшчынёй міліметра паўтара не возьме ні піла, ні сякера.

**Трэцяе**. Замок павінен быць унутраным — уразным або накладным, толькі не вісячым. Яго лягчэй збіць або перапілаваць дужку.

**Умацаваўшы дзверы, пераходзім да вокнаў.** Зразумела, можна паставіць рашотку, але і жыць тады прыйдзецца, нібы ў турме, таму лепш устанавіць аканіцы. Яны павінны быць з дошчак не таней, чым 20 мм (лепш 30), абабітыя жалезам і без усялякіх дэкаратыўных выразаў у выглядзе пеўнікаў ці сардэчак — упрыгожваючы дом, вы паслабляеце аканіцы і тым дапамагаеце злачынцу. Мацаваць аканіцы варта да сцяны, а не да аконнай шуфляды. Пры мацаванні рэкамендуем на кожную палавіну ставіць розныя паўшарнірныя завесы — левую і правую. Навешваць аканіцы будзе складаней, затое і зняць іх з завесаў зламысніку не ўдасца.

## ІДЭІ МАЙСТРУ

# На кухні — парадак

У наш век механізацыі і электрыфікацыі намнога ўдасканалілася праца на кухні. З'явіліся электрамясарубкі, электрасокавыцiскалкі, электракавамолкі і шэраг іншых вельмі карысных рэчаў, у тым ліку і кухонны камбайн, які сумяшчае ў сабе многія аперацыі і безліч розных насадак, пераходнікаў, барабанаў і інш. Пакуль усё гэта ўпакавана ў скрынку, яно не палохае разнастайнасцю дэталяў. Але варта толькі адзін раз выкарыстаць камбайн у рабоце, як пасля гэтага іншым кухонным прыладам не хапае месца на паліцах.

Выйсце з гэтага становішча можна знайсці, калі да дна падвесных шафаў прымацаваць своеасаблівую касету з аддзяленнямі для кожнага інструмента (гл. малюнак). Змайстраваць яе можна з абрэзкаў фанеры і брускоў. Гатовую касету трэба афарбаваць у той жа колер, што і ўся кухонная мэбля.





-1416-

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

# Цёплы кампраміс

**У 14—16 гадоў хто будзе непакоіцца аб невядомых захворваннях з дзіўнымі назвамі — атыт, неўрыт і г. д.? І хлопчыкі, і дзяўчынкі ў гэтым узросце лічаць, што прыгажосць вышэй за ўсё, таму і фарсяць без галаўных убораў. Давайце прапануем нашым дарагім дзецям кампраміс: закрываць вушы і цемя шарсцянай палоскай, і прыгажосць са здароўем не пацерпяць.**

**Палоска для дзяўчынкі.** Спатрэбяцца ніткі трох колераў, прычым не абавязкова купляць новую пражу. Падбярыце шэрсць па колеру, улічыце, каб гарманіравала з курткай. Распусціце, напрыклад, старую шапачку або шалік.

мал.1
7см
4см
7см

мал. 2

Колькасць вочак разлічыце па ўзору, каб палоска адпавядала аб'ёму галавы. Вязка самая простая — панчошная. Кожныя два рады мяняйце колер ніткі. Правяжыце 7-8 см (можна і болей), затым 4 см — адным колерам (лепш самым светлым) і зноў 7-8 см — рознымі колерамі (мал.1).

Убачыце — краі самі пачнуць закручвацца ў валік. Вельмі акуратна сшыйце палоску так, каб звонку быў правы бок сярэдняй аднаколернай часткі і вываратны — рознакаляровых краёў.

мал.3
9 8 7 6 5 4 3 2 1 см

Вось «шапачка» і гатова. Яе можна ўпрыгожыць вышыўкай. Лепш за ўсё скарыстаць спецыяльнае трыкатажнае шво (мал. 2): нітка паўтарае форму вочка і, калі рухаецца па вертыкалі, не сцягвае вырабу.

**Палоска для хлопчыка**, зразумела, больш спакойная па колеру. Гэтак жа разлічыце па ўзору колькасць вочак і панчошнай вязкай вяжыце палоску з нітак трох колераў. Калі хочаце, каб каляровыя палосы былі адной шырыні, правяжыце першую даўжынёй 7 см, а другую і трэцюю — па 5 см. Цяпер складзіце выраб, як паказана на мал. 3. Сфастрыгуйце і па правым баку прашыйце рукамі трыкатажным швом. Вышыўку па жаданню можна зрабіць па адной палосцы ці на кожнай з трох.

## ЖАНОЧЫЯ ХІТРАСЦІ

# Дары прыроды для прыгажосці

**Для таго, каб выглядаць прывабліва і пры гэтым добра сябе адчуваць, адной дэкаратыўнай касметыкі мала. Касметолагі раяць прыцягнуць да справы пяць пладоў прыгажосці і здароўя:**

- адзін банан у дзень амалодзіць ваш твар;
- лясныя арэхі ўмацуюць валасы і пазногці;
- буракі добра ачысцяць арганізм, прастымулююць работу нырак і печані;
- сельдэрэй надзейна абароніць ад цэлюліту;
- лімоны ўмацуюць слізістую абалонку, павысяць імунітэт і актывізуюць работу мозгу.

-1417-

Полис страхования экстренных медицинских расходов «Colonia Krankenversicherung AG» Германия № 04884 **считать недействительным.**

*СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ*

# КРЫЖАВАНКА



**Па гарызанталях:** 5. Праверка набору і выпраўленне памылак у друкарскім наборы. 8. Паўднёвае вечназялёнае дрэва з драўнінай высокай трываласці. 9. Лірычны вершаваны твор, прасякнуты пачуццём смутку, журбы. 11. Задыякальнае сузор'е. 14. Баваўняная тканіна з рэльефным тканым узорам. 16. Епіскап, намеснік архірэя ў праваслаўнай царкве. 17. З'яднанне купцоў або рамеснікаў у сярэднявяковай Еўропе. 18. Пашкоджанне раслін ад засухі або сухавею. 20. Птушка сямейства драздовых. 21. Розніца межаў, паміж якімі змяняецца пераменная велічыня. 22. Пэўная колькасць выбуховага рэчыва з узрывальнікам. 24. Доўгія вузкія сані ў насельнікаў паўночнай часткі Еўразіі. 26. Рэдкая частка я.-н. ежы. 28. Слова, якое вызначаецца ад іншага гучаннем, але супадае з ім па сэнсу. 29. Перапынак у час спектаклю. 30. Трапічная, багатая на крухмал расліна. 32. Кампазітар, аўтар славутых песень «На безыменнай вышыні», «З чаго пачынаецца Радзіма» і інш. 33. Вядомы жывапісны твор В. Пярова. 34. Прыбор для вымярэння пэўных фізічных велічынь.

**Па вертыкалях:** 1. Трос, вяроўка для нацягвання пярэдняга паруса. 2. Род масава папулярнага мастацтва. 3. Рака ў Іране і Туркменіі. 4. Краіна ў СНД. 6. Дэталь плуга. 7. Тытул японскага імператара. 10. Горны хрусталь з валокнападобнай будовай. 12. Горны від спорту. 13. Традыцыйны раздзел педагогікі. 15. Знешняя прыкмета хваробы. 16. Нашыўка з кавалачкаў футра па краях адзення, абутку. 19. Настрой, гумар, тон. 20. Вялізная драўляная ці металічная пасудзіна. 23. Кароткае алегарычнае апавяданне з жыцця жывёл. 25. Кантынент. 26. Струнны ўдарна-клавішны музычны інструмент. 27. Вядомы савецкі авіяканструктар, Герой Сацыялістычнай Працы. 30. Грамата, дакумент ханаў Залатой Арды. 31. Ахоўнік, абаронца (стар.).

**Склаў Канстанцін ЖУК.**

г. Жодзіна.

# ГАЛАВАЛОМКА

У гэтай галаваломцы зашыфравана цудоўная прымаўка аб месцы чалавека ў грамадстве.

**Склаў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**

г. Мінск.



# КРЫПТАГРАМА

Спачатку разгадайце чатыры ключавыя словы. Затым, карыстаючыся імі і памяняўшы аднолькавыя лікі на адпаведныя аднолькавыя літары, запішыце гэтыя літары ў клеткі малюнка. Калі вы зробіце гэта правільна, то прачытаеце слушную прымаўку, актуальную ва ўсе часы.

а) 1-2-3-4 — злакавая культура; б) 5-6-7-8-1-9-10-5 — беларускі народны танец; в) 11-12-13-14-1-15-10-16 — найбольш распаўсюджаны тып самаходнага судна; г) 17-5-18-19-1-20 — узбекскі пісьменнік, аўтар рамана «Нялёгка стаць мужчынам».



**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

Лагойскі раён.

# АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**Крыжаванка-чайнворд (6 лістапада). Да цэнтра:** 1. Касмадром. 2. Скарб. 3. Лявоніха. 4. Пат. 5. Сарафанаў. 6. Тапаз. 7. Манометр. 8. Бас. 9. Аранжарэя. 10. Метол. 11. Каланада. 12. Хан. 13. Галактыка. 14. Архар. 15. Стандарт. 16. Эра. **Па дугах:** 25. Смаржок. 26. Паралон. 27. Антонаў. 28. Саванна. 29. Лаванда. 30. Гімалаі. 31. Секатар. 32. Кантата. 33. Сакрат. 34. Плотка. 35. Кратэр. 36. Грэчка. **Па акружнасці:** 17. Анексія. 18. Яшчарка. 19. Аўчарка. 20. Армавір. 21. Ракетка. 22. Андатра. 23. Антракт. 24. Тэарэма.

# ЧАЛАВЕЧКІ

У левую частку малюнка замест пытальніка памясціце з правай часткі малюнка таго чалавечка, які поўнасцю адпавядае логіцы разважання.



*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

# МІКІТА

Энергічная музыка беларускага народнага танца «Мікіта» даўно перасягнула межы нашага краю. Прыпеўкі, якімі звычайна гарэзліва перакідваюцца хлопцы і дзяўчаты ў час танца, гучаць ля вусцяў Віліі і Нёмана ўжо на літоўскай мове. Аляксандр Глазуноў выкарыстаў гэтую танцавальную мелодыю ў сваёй 1-й сімфоніі.

Тэкст, які змяшчаецца па просьбе мінчаніна Васіля Сіліванава, запісаў Генадзь Цітовіч у 1935 годзе ў в. Рабекі Пастаўскага раёна. У XIX стагоддзі занатаваў тэкст фальkларыст і этнограф Міхал Федароўскі. Апрацоўку музыкі зрабілі Самуіл Палонскі і іншыя кампазітары.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## МІКІТА

А Мікіта жыта паша
А я рада — поле наша!
Мікіта, Мікіта,
Так і гэтак, Мікіта*.

А Мікіта жыта косіць.
А я рада, — есць не просіць.

А Мікіта вее жыта,
А я рада, што аббіта.

А Мікіта жыта меле,
А я рада, што так веле.

А Мікіта муку сее,
А я рада, што умее.

А Мікіта ў печы паліць,
А я рада, што кухарыць.

А Мікіта хлеб саджае,
А я рада, што гуляю.

** Прыпеў «Мікіта, Мікіта, так і гэтак Мікіта» выконваецца пасля кожнага двухрадкоўя.*

*36,6*

# Прадукты, якія лепш ужываць як мага радзей

**Газіраваныя напіткі, у тым ліку і сухія**. Утрымліваюць вельмі шмат цукру. Фарбавальнікі, якія надаюць ім розныя адценні, нярэдка могуць выклікаць алергічныя рэакцыі. Падобныя праблемы іншы раз выклікаюць і кансерванты. У «коле» і некаторых іншых напітках ёсць кафеін, які аказвае стымулюючае дзеянне на нервовую сістэму, можа правакаваць сэрцабіццё і арытміі. А пры частым ужыванні выклікае развіццё залежнасці.

**Вараныя каўбасы**. Звычайна ў імпартнай прадукцыі даволі шмат кансервантаў. Як правіла, нітрыту натрыю, які аказвае пракацэрагеннае дзеянне. Паверхня такіх каўбас на разрэзе больш бляклая, прывычны каўбасны смак у іх адсутнічае, кансістэнцыя такіх каўбас больш шчыльная. Звычайна яны выпускаюцца ў яркай цэлафанавай ненатуральнай абалонцы.

**Маргарыны, у першую чаргу цвёрдыя**. У іх утрымліваюцца так званыя транстлушчы, якія садзейнічаюць развіццю атэрасклерозу нават мацней, чым насычаныя жывёльныя тлушчы. Акрамя таго, транстлушчы могуць садзейнічаць развіццю некаторых пухлін, у прыватнасці рака грудзей у жанчын.

**Рулеты, кексы і іншыя гатовыя кандытарскія вырабы**. Звычайна яны прыгатаваны на маргарыне і іншых тлушчах, багатых транстлушчамі. Даведацца аб утрыманні транстлушчаў можна па наяўнасці «гідраваных» або «гідрагенізаваных раслінных алеяў», яія ўказваюцца ў пераліку. Праўда, вельмі часта яны ўказваюцца проста як раслінны алей. Акрамя таго, у такіх прадуктах утрымліваецца вялікая колькасць фарбавальнікаў і кансервантаў.

**Цукеркі, ледзянцы, ірыскі і іншая дробязь для дзяцей**. У іх даволі вялікая колькасць сінтэтычных фарбавальнікаў і араматызатараў. Многія з якіх могуць выклікаць алергію.

**«Неделя».**

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

- **21 лістапада 1325 года** ў Залатой Ардзе быў забіты першы вялікі князь Масквы Юрый Данілавіч.
- **У гэты дзень у 1694 годзе** нарадзіўся Вальтэр (Марыя Франсуа Аруэ), французскі пісьменнік і філосаф-асветнік. «Я магу быць не згодны з вашай думкай, але я гатовы аддаць сваё жыццё за ваша права свабодна выказаць яе», — пісаў ён.
- **21 лістапада 1699 года** Пётр I выдаў указ аб наборы рэгулярнага войска.
- **21 лістапада 1783 года** ўпершыню ў паветра падняўся паветраны шар братоў Мангальф'е з людзьмі на борце. Піянерамі паветраплавання сталі фізік Жан Франсуа дэ Разье і маркіз Франуса Ларэн Д'Арланд. Яны лятали над Парыжам 25 хвілін, узняўшыся на вышыню больш як 1000 метраў і праляцеўшы 9 км.
- **21 лістапада 1902 года** нарадзіўся Міхаіл Суслаў, савецкі партыйны дзеяч, «шэры кардынал», які трымаўся ў сваім крэсле пры Сталіне, Хрушчове, Брэжневе.
- **21 лістапада 1917 года** па прапанове бальшавіцкай фракцыі на 2-м Усерасійскім з'ездзе Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў Леў Каменеў, як праціўнік аднапартыйнага бальшавіцкага кіравання, быў зняты з пасады старшыні ВЦВК — праобраза Прэзідыума Вярхоўнага Савета, што ў пэўнай меры адпавядала пасадзе прэзідэнта. Такім чынам, першы савецкі «прэзідэнт» кіраваў усяго 12 дзён, наступны — Якаў Свярдлоў — 15 месяцаў, неперуўзыдзеным аказаўся рэкорд Міхаіла Калініна — 27 гадоў.
- **21 лістапада 1931 года** брытанскі парламент зацвердзіў «Вестмінстэрскі статут», згодна з якім суверэнітэт атрымалі Канада, Аўстралія, Новая Зеландыя, Паўднёва-Афрыканскі Саюз і была ўтворана Брытанская садружнасць нацый.

Акрамя ўсяго іншага, 21 лістапада адзначаецца як **Міжнародны дзень адмовы ад курэння.**

## Цікава

***Няпростая задача стаіць перд калектывам заходнегерманскіх вучоных, якія павінны вызначыць... 100 важнейшых слоў XX стагоддзя.***

Прычым, трэба знайсці тыя вызначэнні, якія цалкам і поўнасцю змянілі наша жыццё. Слоўнік быў складзены вялікі, што толькі ў яго не ўвайшло — і СНІД, і Версаль, і Вердэн, і г. д. Дзеля поўнай справядлівасці спіс быў раздадзены наведвальнікам Франкфурцкага кніжнага кірмашу, каб і яны паўдзельнічалі ў гэтым філасофска-лінгвістычным працэсе. Усе «рэспандэнты» пакінулі слова «камп'ютэр» і дружна выкраслілі ненавісную «жвачку».

Але вучоныя — народ аб'ектыўны, і людскія эмоцыі на іх не дзейнічаюць. Трыццаць адзін сімвал адыходзячай эпохі ўжо вызначаны. Імі сталі: *антыбіётык, аўтаматызацыя, правадыр, ген, інфляцыя, джынсы, жвачка, крэдытная картка, паветраная вайна, мафія, маніпуляцыя, перабудова, таблетка, поп* (у сэнсе — накірунак музыкі), *псіхааналіз, радыё, спадарожнік, чорная пятніца, спорт, пыл, стрэс, зелле, знішчэнне народаў, рэклама, кіслотныя воблакі, чыноўнік.*

Справа засталася за малым — запоўніць у слоўніку 69 вакантных месцаў.

## І так бывае...

***Кур'ёзная гісторыя адбылася ў адным з аддзяленняў Ашчадбанка ва Уладзівастоку. Незадоўга да закрыцця туды зайшоў малады чалавек спартыўнага целаскладу з парасонікам.***

Толькі ён працягнуў 20-доларавую купюру ў акенца абменнага пункта, як пачуўся «стрэл»: высветлілася, што ў самы непадыходзячы момант... раскрыўся парасонік. Касір аслупянеў, наведвальнікі, як па камандзе, кінуліся на падлогу, спакойным заставаўся толькі хлопец. Відаць, капрызы парасоніка былі яму не ў навіну. Не паспеў ён растлумачыць, што здарылася, як на парозе з'явіліся міліцыянеры з аўтаматамі і ў бронекамізэльках. Нарад прыбыў па трывожнаму званку адной з супрацоўніц банка. Калі ўсё высветлілася — усе доўга смяяліся...

## Кажуць, што...

***Інтрыгуючае паведамленне прыйшло з інстытута імя Вейцмана ў Ізраілі: вучоныя выявілі ў мозгу пацукоў асаблівы цэнтр, у якім у выглядзе ўстойлівых хімічных злучэнняў накопліваецца інфармацыя аб мінулых смакавых адчуваннях. Даследчыкі мяркуюць, што падобныя цэнтры існуюць і ў мозгу іншых цеплакроўных, уключаючы чалавека.***

Гэтае адкрыццё можа зрабіць вялікі ўплыў на далейшае развіццё медыцынскай навукі ў плане распрацоўкі новых метадаў лячэння парушэнняў апетыту. Верагодна, непажаданы павышаны апетыт да пэўных відаў ежы (асабліва салодкай і тлустай) і, як вынік, накапленне празмернай вагі, у многіх людзей звязаны менавіта з няправільнай «хіміяй» галаўнога мозгу, якую і трэба «выпраўляць» спецыяльнымі медыкаментамі, а не мучыць няшчасных пацыентаў галоднымі дыетамі.

Заманлівыя перспектывы абяцае гэтае адкрыццё і гурманам, бо дабаўка спецыяльных хімічных злучэнняў у звычайную ежу дапаможа імітаваць у свядомасці чалавека самыя вытанчаныя далікатэсы. Ясі, напрыклад, вялікай лыжкай добра ўжо надакучыўшую аўсяную кашу, а атрымліваеш асалоду, як ад чорнай ікры...

## Анекдот

*Хлопчык убягае ў паліцэйскі ўчастак.*

*— Хутчэй, панове, там на вуліцы збіваюць майго тату!*

*Паліцэйскі выходзіць і бачыць, як двое мужчын сапраўды добра-такі валтузяць адзін аднаго.*

*— Я іх зараз разніму, але хто з іх твой бацька?*

*— Менавіта гэта яны зараз і высвятляюць.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі. Матэрыялы, пазначаныя значком носяць рэкламны характар. Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6761.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12